**Правілы жыцця Рыгора Барадуліна Старонка 11.**

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 9 (846) 5 сакавіка 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Абы не было вайны

Напад Расіі на Украіну раптоўна паставіў свет на парог Трэцяй сусветнай вайны. **Старонка 2.**
На фота: прэзідэнт ЗША Барак Абама 2 сакавіка 1,5 гадзіны размаўляў з Уладзімірам Пуціным.

## Дэзы

«Амерыканскія баевікі» ў Жулянах: як расійская прапаганда хлусіла пра Украіну. **Старонка 8.**



## «А Пуцін, па-мойму, проста шызафрэнік»

Рускамоўныя ўкраінцы пра Майдан і Расію. **Старонка 4**



## «Моладзь вучыць крымскататарскую мову»

Асман Пашаеў пра крымскіх татараў і вайну. **Старонка 5.**



## У Міжгор'і ў мяне здарыўся культурны шок

Ігар Ліхавы пра Шаўчэнку і Януковіча. **Старонка 7.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Абы вайны не было

**Напад Расіі на Украіну раптоўна паставіў свет перад перспектывай Трэцяй сусветнай вайны.**




На прэс-канферэнцыі ў аўторак Пуцін — рэдкі выпадак — гаварыў паспешліва, выглядаў мітуслівым, нервовым. Нечаканая сустрэча прэзідэнта Расіі з прэсай праходзіла ў невялічкай зале ў падмаскоўнай рэзідэнцыі, Пуцін сядзеў на крэсле проста перад прадстаўнікамі СМІ. А ўвесь свет стаіў дыханне: вайна будзе ці не?

Але ўважлівыя аналітыкі адчулі, што вайны ўсё ж не будзе, прынамсі, гэтым разам не будзе, трохі раней. Пасля абеду ў панядзелак расійскія СМІ рэзка змянілі тон. Замест паведамленняў пра эскалацыю і рускамоўных гаворка пайшла пра рэкорднае падзенне расійскага рубля і біржы на навінах пра магчымую вайну. І так ужо адкрыта пра гэта гаварылі, што падумалася: рыхтуюць грамадскую думку да таго, што ўводу войскаў у кантынентальную Украіну ўсё ж не здарыцца. Насуперак усяму таму, што гаварылася на выхадных. І сапраўды, у аўторак уранку стала вядома пра спыненне манёўраў Заходняй ваеннай акругі Расіі.

Затое што рабілася на расійскім ТВ раней! Проста падрыхтоўка бліцкрыгу нейкая. Пуцін хоча бамбіць Кіеў? Але чым гэта скончылася б? Польшча і Турцыя не сталі б спакойна назіраць такое пад бокам. А ЗША і Брытанія давалі Украіне гарантыі тэрытарыяльнай цэласнасці ўзамен на адмову ад атамнай зброі. Хто даверыцца іх гарантыям у будучыні, калі на Украіну нападуць? А што будзе, калі ЗША і Расія счэпяцца ў схватцы, тлумачыць не трэба. Вось так, раптоўна, Еўропа адчула сябе на мяжы сусветнай вайны — такога не бывала ад часоў Афганістана і «Салідарнасці».

22 лютага стала зразумела, што рэвалюцыя ў Кіеве перамагла. Рэжым пасыпаўся, як картачны дамок. Януковіч уцёк са сталіцы, спачатку ў Харкаў, пасля невядома куды. Аб'явіўся ў Расіі, у Растове-на-Доне.

26 лютага група крымскіх дэпутатаў захацела прызначыць рэферэндум аб аддзяленні Крыма ад Украіны. Крым — спецыфічны рэгіён, большасць жыхароў там складаюць рускія. Дый даволі моцны Чарнаморскі флот Расіі размешчаны ў Крыме. Юшчанка дабіўся яго вывяду, але Януковіч пасля прыходу да ўлады падпісаў так званыя Харкаўскія пагадненні — флот застаўся ўзамен на такія-сякія зніжкі цаны на газ.

Праўда, на паўвостраве ёсць вялікая колькасць крымскіх татараў (старонка 5), якія падтрымліваюць украінскую дзяржаўнасць. Менавіта татары ў першы дзень і аказалі супраціў. На плошчы перад парламентам татараў і ўкраінцаў сабралася ў 5 разоў больш, чым рускіх, і парламент нічога не прыняў.

Тады ў наступную ноч парламент і ўрад захапілі ўзброеныя да зубоў людзі ў камуфляжы. Яшчэ праз дзень яны занялі таксама ўсе аэрадромы і стратэгічныя аб'екты паўвострава, і туды сталі прыбываць самалёты з расійскім спецназам.

З'явіўся і дэсант з 30 дэпутатаў Дзярждумы, ад баксёра Валуева да касманаўткі Церашковай, каб абараніць жыхароў рэгіёна ад «бандэраўцаў». У захопленым будынку парламента, пад дуламі аўтаматаў, без прысутнасці журналістаў пэўная колькасць дэпутатаў, якая не паддаецца праверцы, «абрала» новым прэм'ерам Крыма кіраўніка партыі, якая сабрала на апошніх рэгіянальных выбарах... 4% галасоў, — Сяргея Аксёнава. Яго партыя называецца «Рускае адзінства» (старонка 5).

Быў прызначаны і рэферэндум. Спачатку — на 25 мая, потым (спешка) перанеслі на 30 сакавіка.

Украінская ўлада практычна ніяк не зрэагавала на падзеі. Ці то не мела як, ці то больш за ўсё баялася паўтарэння асецінскай пасткі, у якую ў 2008 годзе трапіў Саакашвілі.

У суботу, першы дзень вясны правакатары ўзнялі расійскія сцягі над абласнымі радамі некалькіх усходніх гарадоў Украіны (старонка 8). У Харкаве быў жорстка збіты пісьменнік Сяргей Жадан.

І роўненька тады ж, 1 сакавіка, з'явілася паведамленне прэсслужбы Пуціна, пасля якога здавалася, што вайна непазбежная: «У сувязі з экстраардынарнай сітуацыяй, якая склалася ва Украіне, пагрозай жыццю грамадзян Расійскай Федэрацыі, нашых суайчыннікаў, асабовага складу вайсковага кантынгенту Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі, які дыслакуецца ў адпаведнасці з міжнароднай дамовай на тэрыторыі Украіны (Аўтаномная Рэспубліка Крым), на падставе пункта «г» часткі 1 артыкула 102 Канстытуцыі Расійскай Федэрацыі ўношу ў Раду Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі зварот аб выкарыстанні Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі на тэрыторыі Украіны да нармалізацыі грамадска-палітычнай абстаноўкі ў гэтай краіне».

Сам Пуцін не з'явіўся на экранах, але Савет федэрацыі ў лічаныя хвіліны адгаласаваў і ў атмасферы шавіністычнай істэрыі такі дазвол даў.

У першыя дні і Кіеў, і свет не ведамі, як рэагаваць, гэта быў сапраўдны шок. Каб знайсці адказы, спатрэбілася некалькі дзён. 2 сакавіка з Пуціным паўтары гадзіны гаварыў Абама. Абышло свет фота: Абама ў джынсах, кашулі з закасанымі рукавамі, трымае слухаўку на шнуры. Вельмі цікава будзе калісьці пачытаць у яго мемуарах, што было ў той размове. Афіцыйная інфармацыя была сціслая: прэзідэнт ЗША папярэдзіў Расію аб міжнароднай ізаляцыі. ЗША адмовіліся браць удзел у сустрэчы вялікай васьмёркі ў Сочы, следам гэта зрабілі і астатнія.

«Ніводная краіна не мае права несправакавана паслаць войскі ў іншую краіну. З цягам часу Расія дорага за гэта заплаціць. Расія не можа беспакарана парушаць асноўныя прынцыпы, якія прызнаныя ва ўсім свеце», — стрымана сказаў Абама.

Эскалацыя сітуацыі ва Украіне працягвалася.

Тым часам адбылася тэлеканферэнцыя міністраў замежных справаў ЗША, Польшчы, Турцыі, Брытаніі, Францыі, Еўрасаюза, Канады і Японіі.

А ў вечары нядзелі з прэзідэнтам Расіі паўтары гадзіны гаварыла канцлерка Германіі Ангела Меркель.

Пасля гэтага яна званіла Абаму. У СМІ выпусцілі наступныя словы: Меркель сказала Абаму, што Пуцін «страціў сувязь з рэальнасцю».

Супраць сепаратызму з уласцівай яму асцярожнасцю выступіў Кітай. Ніхто не падтрымаў Расію. Нават бліжэйшыя хаўруснікі — Беларусь і Казахстан — палічылі за лепшае адмаўчацца.

У панядзелак адбылося падзенне расійскага рубля.

У аўторак на экстранай прэсканферэнцыі ў Маскве Уладзімір Пуцін заявіў: «Неабходнасці ўводзіць войскі ва Украіну няма». Дзеянні войскаў у Крыме ён апраўдваў тым, што «ў Крым ужо падцягваліся нацыяналістычныя сілы». «Мы гэта зрабілі, і мы гэта зрабілі правільна». «Я сыходжу з таго, што на Усходняй Украіне нічога гэтага рабіць не прыйдзецца».

«Мы не хочам кагосьці паняволіць», — зазначыў Пуцін.

Але даў зразумець, што Крым Расія ўжо не аддасць.

Сітуацыя на паўвостраве застаецца цяжкай. Як і эканамічнае становішча Украіны, раздушанай непад'ёмнымі цэнамі на газ і крадзяжамі Януковіча. Яшчэ няясна, як падзеі будуць развівацца. Але супольная пазіцыя свету дазволіла спыніць агрэсію.

**Зміцер Панкавец, Мікола Бугай**

### Біржавы індыкатар

Біржа адрэагавала на магчымы ўвод расійскіх войскаў ва Украіну абвалам расійскага рубля. Курс еўра перавысіў 50 расійскіх рублёў, паставіў рэкорд.

За панядзелак, 3 сакавіка, агульная капіталізацыя расійскіх кампаній зменшылася на $55 мільярдаў. Эксперты прадказваюць, што расійская эканоміка па выніках года прадэманструе нулявыя тэмпы росту ВУП.

## Сцісла

### Новы кіраўнік справаў БПЦ

Ім стаў 33-гадовы архімандрыт Антоній Даронін. Ён нарадзіўся ў Баку. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю, тэма дыпломнай працы «Сістэматычны бібліяграфічны паказальнік артыкулаў Літоўскіх Епархіяльных Ведамасцей ад 1888 да 1902 гг.». Раней кіраўніком справаў быў епіскап Навагрудскі Гурый.

### Новы намеснік у Адміністрацыі прэзідэнта

Анатолю Лісу 56 гадоў, ён родам з Мастоўскага раёна. Быў старшынёй Навагрудскага райвыканкама і дэпутатам палаты прадстаўнікоў.

### Злавілі наркадылера

Затрыманы 37-гадовы менеджар фермерскай гаспадаркі з Мінскай вобласці. Пасля затрымання аператыўнікі знайшлі сховішча наркадылера. Яно знаходзілася пад мостам на развязцы праспектаў Дзяржынскага і Жукава. Там канфіскаваны 2 мільёны «марак» і 13 кілаграмаў парашка.

## Апытанне на nn.by

### Ці ўдасца Расіі адарваць Крым ад Украіны?

| | | |
|---|---|---|
| Так | 221 | 13% |
| Не | 1129 | 64% |
| Яшчэ і Данбас | 134 | 8% |
| Гэта будзе пірава перамога, якая прывядзе да развалу Расіі | 268 | 15% |

Усяго прагаласавала 1752.

## Самае чытанае на nn.by за 26 лютага – 4 сакавіка

1. Вайна — Савет федэрацыі Расіі дазволіў увесці войскі ва Украіну
2. У Мінску замкнулі метро, бо паступіла інфармацыя пра падазроныя прадметы
3. Сітуацыя ў Крыме абвастрылася да крайнасці. Ці абвесцяць незалежнасць?
4. Дача прэзідэнта Польшчы Камароўскага
5. Памёр народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін
6. Сотнік, які пераламіў ходу гісторыі
7. Тэлевядучы Сяргей Дарафееў: Ідэолагі хлусяць, Крэмль хлусіць!
8. Майдан ставіць новы ўльтыматум
9. Дэманстранты падпалілі раскошны палац кіраўніка Кампартыі Украіны
10. О так, я — нацыяналіст: Святаслаў Вакарчук адказаў на абвінавачванні з Расіі

# Жванецкі: «Рускія шалёна зайздросцяць украінцам»

Што казала інтэлігенцыя




REUTERS

Тыповая карцінка дзіўнай вайны ў Крыме. Расійскія спецназаўцы (справа) блакуюць украінскую вайсковую базу. Украінскія салдаты замкнулі вароты і не пускаюць нападнікаў, але зброі не ўжываюць. Ідзе вайна нерваў. Кіеў загадаў «не паддавацца на правакацыі».

**Спявак Андрэй Макарэвіч:**

Ва Украіне адбылася самая тыповая рэвалюцыя, і пры ўсёй маёй нелюбові да рэвалюцый я не магу назваць яе несправядлівай. (...) Хлопцы, вы чаго дамагаецеся? Стварэння грамадскай думкі для ўводу войскаў на тэрыторыю суверэннай дзяржавы? Адхапіць Крым? Хлопцы ў тэлевізары, вы чаго дамагаецеся? Надоўга пасварыць два народы, якія жывуць побач? Вам удаецца. А чым гэта скончаецца, ведаеце? Вайну з Украінай захацелі? Так, як з Абхазіяй, не выйдзе: хлопцы на Майдане ўжо загартаваныя і ведаюць, за што б'юцца: за сваю краіну, за сваю незалежнасць. А мы за што? За Януковіча?»

**Гумарыст Міхаіл Жванецкі:**

«Мне здаецца, што рускія шалёна зайздросцяць ўукраінцам. Бо тыя змаглі зваліць дзёрзкіх, нахабных зладзюг, якія злгаліся, ахамелі. Гэта не выключае таго, што могуць прыйсці новыя. Але яны сапраўды будуць ведаць, што існуе сіла працідзеяння, здольная даць ім адпор».

**Пісьменніца Святлана Алексіевіч:**

«Канечне, гэта Расія і яе імперскія амбіцыі.. Я жыву ў цэнтры, недалёка ад помніка Шаўчэнку, і самае важнае для мяне, што пасля кожнай ночы помнік літаральна абсыпаны кветкамі, да яго прыносяць свечкі. Вось гэта вельмі важна — што беларусы падтрымліваюць Украіну».

**Драматург Андрэй Курэйчык:**

«Пуцін — гэта Каін і Гітлер XXI стагоддзя ў адной асобе. Пуцін — адзіны лідар Расіі, які знішчае само паняцце «рускі свет» на прасторы былога СССР, забіваючы братоў. Гэты чалавек знішчыў рускі свет у Грузіі і на Паўночным Каўказе. Цяпер знішчае яго ў «братэрскай» Украіне. На чарзе Беларусь, дзе шмат «рускамоўных», куды Пуцін гатовы пры любой магчымасці пасласць войскі. Ваенная акупацыя, інтэрвенцыя, пад аўтаматамі спецназа ГРУ прызначаюць свайго «прэзідэнта», натоўпы ўзброеных салдат бегаюць па паўвостраве, гатовыя паказаць перавагу расійскай зброі, крутасць пуцінскіх войскаў, хвацкасць... Хоць каму-небудзь. А паказваць няма каму. З імі ніхто не ваюе. Яны ходзяць — а нікога няма. Толькі насельніцтва глядзіць на іх як на прыдуркаў. Ну ходзяць і ходзяць...»

**Прафесара МГІМО Андрэя Зубава звольнілі за антываенны артыкул**

У суботу, 1 сакавіка, у «Ведомостях» з'явіўся артыкул Андрэя Зубава «Гэта ўжо было». Ён пачынаецца словамі:

«Сябры. Мы на парозе. Мы на парозе не ўключэння новага суб'екта ў склад РФ. Мы на парозе поўнага разбурэння сістэмы міжнародных дамоваў, эканамічнага хаосу і палітычнай дыктатуры. Мы на парозе вайны з нашым найбліжэйшым, братнім народам Украіны, рэзкага пагаршэння адносін з Еўропай і Амерыкай, на парозе халоднай, а магчыма, і гарачай вайны з імі».

**Сатырык Віктар Шэндэровіч:**

«Тут, вядома, і помста Майдану , але галоўным чынам — рэфлекс гіены... Украіна — шмат у чым дзякуючы менавіта пуцінскай агрэсіўнай палітыцы — аказалася раптоўна безабароннай, разарванай ў палітычныя шматкі і без легітымнай улады. Самы ўдалы момант для нападу! Ён адкусіў, колькі зможа, а потым, вядома , адруліць трохі назад. Імпатэнцыя Захаду пакуль дазваляе яму куражыць. Уласна акупацыі, я думаю, не будзе — будзе хуткая, пад шумок, рассаджванне ў Крыму і на Усходзе «легітымных» марыянетак з далейшым кантролем за рэсурсамі».

**Музыкант Юрый Шаўчук:**

«Супакойцеся, дэманы, доўбаныя кабінетныя і кухонныя псеўдапатрыёты, ваяўнічыя радыкалы з абодвух бакоў, якім увод войскаў канчаткова развяжа рукі. Ізноў кровушкі брацкай захацелі, гэтай віягры, каб і далей у вас усё стаяла ... Калі будзе, не дай Бог, вайна ў 2014 і пацякуць па венах Расіі і Украіны двухсотыя, то ў 2017 будзе ўжо іншая рэвалюцыя, і мы атрымаем ужо канчатковы ўсеагульны кірдык».

**Музыка Барыс Грэбеншчыкоў:**

«Тыя, у каго сёння ў руках улада, — узгадайце пра народ, які дэлегаваў вам гэтую ўладу; без гэтага народа вы ніхто; перастаньце падманваць яго. Якім бы вялікім ні было ваша жаданне ўвайсці ў гісторыю, не спрабуйце зрабіць гэта за кошт смерці людзей, якія вам давяраюць. Не існуе праблем, якія нельга вырашыць мірным шляхам; заўсёды ёсць рашэнне, якое дазволіць пазбегнуць гібелі людзей. Будзьце дальнабачныя: перастаньце нацкоўваць адных людзей на іншых, перастаньце хлусіць свайму народу дзеля ўяўнай сённяшняй выгады — заўтра яна прывядзе да несувымерна больших страт».

Падрыхтаваў Мікіта Капкоў

Каментар

# Некалькі непрыемных, некалькі страшных і некалькі аптымістычных высноваў з Крымскага крызісу

**1.** Захад не чакаў, што Расія ўвядзе войскі ва Украіну, не быў гатовы да такога развіцця падзей і нават не мог паверыць, што такое здарылася. «Я не магу сабе ўявіць вайны ў Еўропе ў XXI стагоддзі», — сказала Меркель. Спатрэбіўся амаль тыдзень, каб Захад пачаў рэагаваць. А што было б, калі б Масква нанесла атамны ўдар па Вашынгтоне і Берліне без папярэджання?

**2.** Расія нанесла ўдар у момант, калі ва Украіне была аслабленая кіраванасць у выніку наступстваў (амаль) мірнай рэвалюцыі.

**3.** Фармальнай падставай для ўдару стала адхіленне ад улады слабога і карумпаванага прэзідэнта, які давёў краіну да эканамічнага банкруцтва. Пры гэтым Расія сама не ставіцца да Януковіча ўсур'ёз. «Так, аўтарытэт прэзідэнта Януковіча практычна ніштожны», — сказаў Мядзведзеў. І тым не менш...

**4.** Украіна — 46-мільённая дзяржава з істотнымі ўнутранымі крыніцамі энергарэсурсаў — не здолела аказаць практычна ніякага супраціўлення захопу Расіяй Крыма. Яна нават не здолела не дапусціць прыезду ва ўсходнеўкраінскія гарады тысяч «турыстаў», якія на апошніх выходных сталі ў авангардзе стварэння карцінкі «пратэстаў рускамоўнага насельніцтва».

**5.** Францыя ў 1940-м абаранялася месяц. Польшча ў 1939-м — тры тыдні. Чэхаславаччына здалася без бою. І толькі Фінляндыя ў 1940-м змагла адстаяць сваю незалежнасць і не дапусціць «урад Куусінена» ў Хельсінкі. Улады Украіны сталі перад цяжкім выбарам у выпадку, калі расійскія войскі ўступілі б на ўсход краіны.

**6.** Нават калі войскі Расіі не зоймуць усход Украіны зараз, гэтая пагроза будзе захоўвацца, пакуль Украіна будзе беднай краінай.

**7.** Незалежнасць усходнееўрапейскіх дзяржаў стала магчымай дзякуючы магутнасці ЗША і слабасці Расіі. Як паказвае рашэнне Пуціна ва Украіне, Расія не прыняла існавання ўсходнееўрапейскіх дзяржаў і іх межаў як дадзенасці і ў выпадку аслаблення ЗША можа паспрабаваць іх цалкам ліквідаваць.

**8.** Еўрасаюз не паспеў замяніць сабой ЗША ў якасці ваеннай супердзяржавы.

**9.** Расійская прапаганда цяпер вельмі падобная да прапаганды нямецкіх нацыстаў у 1930-я. Ідзе гаворка аб «праве рускага народа на ўз'яднанне». Тую самую прапаганду вядзе Руская праваслаўная царква.

**10.** Падставай для ўварвання стала «абарона рускамоўнага насельніцтва», хоць не было ніводнага факта пераследу кагосьці за рускамоўнасць. Такія факты былі ў Махачкале і Грозным, а не ў Данецку! Тым не менш, крытычнае мысленне ў расійскай грамадскай думкі адключанае.

**11.** Ключавую ролю ў стварэнні «падставы» для ўмяшання адыгралі прарасійскія арганізацыі тыпу «Рускага адзінства», «Аплоту», «Дазору», якія фінансаваліся з Расіі. Многія з іх былі цесна звязаны з крымінальнымі групоўкамі і былі гатовыя да ўжывання фізічнага гвалту як метада палітычнай барацьбы («цітушкі»).

**12.** Паступовы захоп Расіяй краін Усходняй Еўропы з выхадам на межы Румыніі і Польшчы можа стварыць лінію глабальнага сутыкнення, у якое будуць уцягнутыя краіны захаду Еўропы. Гэты сцэнар найстрашнейшы для нас, бо паставіць пад пагрозу само існаванне беларусаў.

**13.** Маўчанне афіцыйнага Мінска пра падзеі ў Крыме і рашэнне Савета федэрацыі — гэта знак некаторай нязгоды. Тым не менш, ступень самастойнасці Беларусі цяпер такая малая, што, нягледзячы на гэтае маўчанне, афіцыйныя СМІ вядуць прапаганду ў рэчышчы расійскай.

**15.** Захад па-ранейшаму на парадак мацнейшы за Расію і па эканамічным патэнцыяле, і па вайсковай сіле, і ў «мяккай сіле» — эфектыўнасці і прывабнасці свайго дэмакратычнага ладу. Але мабілізацыя рэсурсаў Захаду можа заняць час, а ваяваць Захад не схільны.

**16.** Іншыя краіны здольныя прыйсці на дапамогу тады, калі краіна можа сама выступіць на сваю абарону першай.

**17.** Гісторыя не скончылася. Расія паказала сваё аблічча, нагадала пра сябе як пра пагрозу для свету, і свет гэтую пагрозу без адказу не пакіне.

Мікола Бугай

# «А Пуцін, па-моймў, проста шызафрэнік»

Украінцы расказалі «Нашай Ніве» пра сітуацыю ва Украіне **сваімі вачыма**.

Расія лезе ва Украіну бараніць «правы рускамоўных». Гэта ледзьве не прывяло да вайны. «Наша Ніва» абзваніла рускамоўных украінцаў, каб яны расказалі, што ж там робіцца ў краіне.

### Гарэгін Тарасян, рабочы (Запарожжа)



Трывожна тут, хоць усё ідзе сваім парадкам: крамы працуюць, тралейбусы ездзяць. Усе размовы, вядома, толькі пра адно — нават размова пра надвор'е ператвараецца ў спрэчку пра палітыку і ці будзе вайна.

Данецк, Адэса, Херсон і Крым — адчуванне такое, што губляем... Там «цітушкі», якія не арыентуюцца на мясцовасці і не разумеюць украінскай, вывешваюць сцягі Расіі і захопліваюць ОДА [абласныя дзяржадміністрацыі, аналаг нашых аблвыканкамаў]. Запарожжа і Днепрапятроўск пакуль трымаюцца, ля помніка Леніну чалавек па 100—200 збіраецца хіба што.

Шмат хто атрымаў выклік у ваенкаматы. Шмат і добраахвотнікаў, нават і ва Усходняй Украіне...

Думаю так (пакуль што): я не пайду ў ваенкамат (хоць бышцам бы я не павінен прызывацца, як бацька траіх дзяцей). Але як дойдзе да дрэннага — адпраўлю сям'ю да бацькоў у Расію і падамся ў добраахвотнікі або партызаны... Спадзяюся, ніколі мне такое рашэнне прымаць не давядзецца.

Мы проста апынуліся на новым вітку, у 1938 годзе. Прапаганда ў Расіі шалёная — сваякі маёй жонкі пасварыліся з ёй! Ім іх дачка кажа: тут усё не так, як вам паказваюць! Яны кажуць: табе, відаць, наркотыкі на Майдане далі і зазамбіравалі.

На фоне рыторыкі з Крамля назіраю ў сваіх знаёмых, раней талерантных і пасіўных, долю агрэсіі: аж да заклікаў «маскалёў — на нажы!». Людзі, якія размаўлялі па-руску, пераходзяць на ўкраінскую. Іншыя, наадварот, крычаць пра Пуціна і патрабуюць скінуць бомбу на Львоў. Раскол грамадства ў Запарожжы, дзе заўжды было ціха, стаў відавочны.

Што тычыцца панікі — быў адзін момант: у апошнія дні супрацьстаяння (да таго, як Януковіч збег), былі чуткі. І ўсе рынуліся ў банкі / банкаматы забіраць грошы, чэргі былі шматгадзінныя. Пасля банкаў народ кінуўся ў крамы за «панічнай торбачкай» (як спявалі «Браты Гадзюкіны» — «40 пачак «Верхавіны», мыла, валёнкі і майка), скуплялі масава соль і крупы. Некаторыя здымалі вялікія сумы грошай і скуплялі бытавую тэхніку, валюту.

Але тых, хто пераstarжыў 90-я, цяперашнія падзеі ўжо не палохаюць...

### Аляксандр Тапілаў, дызайнер (Адэса)



У Адэсе ўсё ідзе спакойна: людзі на працу ходзяць, піва п'юць, актыўнасці, апроч палітычных сходак, няма. Цэны падраслі, але гэта ад падзення грыўны. Трошкі крымінальная абстаноўка пагоршала, калі «цітушак» прывозілі, але цяпер іх ужо адвезлі назад.

Я напалову рускі, напалову — яўрэй. Па-ўкраінску я да гэтага часу не гавару, на жаль. Гэта значыць, па ідэі Пуцін увёў войскі для таго, каб выратаваць і мяне.

Адэса яшчэ не так даўно была максімальна праянуковічаўскі горадам. Таму, калі я ў інтэрнэце глядзеў усе гэтыя прарасейскія мітынгі ў Харкаве, Данецку ды іншых усходніх гарадах у суботу, 2 сакавіка, я неяк вызначыўся адразу: заўтра іду на антыпуцінскі мітынг абавязкова. Каб усе яны бачылі: Адэса супраць Пуціна! Адэса супраць уварвання Расіі! Адэса стамілася. Нас было 20 000 чалавек. Я глядзеў на людзей: культурныя, інтэлігентныя, моладзь, старыя, розных нацыянальнасцяў. І ўсе разам крычаць: «Пуцін гэць!»

Мой сябар з Харкава расказвае, што да іх на антымайданаўскі мітынг звезлі людзей з расійскіх памежных вёсак, каб яны стаялі з рускімі сцягамі: змрочныя людзі.

Я не хачу жыць у Расіі. Я хачу жыць ва Украіне!

### Макс Таўрычаскі, музыка (Кіеў)



Рускамоўнае насельніцтва нішто ніколі прыціскаў. У Кіеве кнігі ў метро амаль усе на рускай, большасць газет і часопісаў. На дарозе Львоў-Луцк стаяць помнікі савецкім салдатам, пафарбаваныя свежай фарбай, побач крыжы УПА, свечкі-лампадкі стаяць і ў тых, і ў гэтых.

**Міністр унутраных спраў Украіны: Да стралянiны ў Кіеве мае дачыненне трэцяя сіла**

Пра гэта ў Харкаве сказаў в.а. міністра ўнутраных спраў Украіны Арсен Авакаў.

«Мы апублікуем факты: хто страляў, калі страляў, па якой камандзе. Факты цяпер збіраюцца ў адзіны ланцуг. Магу толькі сказаць адно, што ключавым фактарам у гэтым супрацьстаянні, якое вылілася ў крывавае пабоішча, была трэцяя сіла. І гэтая сіла — не ўкраінская», — сказаў Авакаў.

Я сам родам з Херсона, размаўляю па-руску, разумею па-ўкраінску. Вось вярнуўся з Львова і Луцка, размаўляў там па-руску.

Я не Пуцін, каб ведаць, будзе вайна альбо не. Але мабілізацыя насельніцтва пачалася — людзі самі ідуць у ваенкаматы. А панікі ў краіне няма, усе набаяліся ўжо.

Я спыняю сваю канцэртную дзейнасць на тэрыторыі РФ. Прашу прабачэння ў тых, хто чакаў мае канцэрты ў Ліпецку і Уладзіміры ў сакавіку, але ваша дзяржава і агульная атмасфера, што склалася ў вас вакол Украіны, не пакідаюць мне іншага выбару.

### Ларыса Панамарова, пенсіянерка (Кіеў)

Мы жывём у цэнтры Кіева, на Падоле. У Кіеве цяпер усё спакойна. Была вялікая трывога ў часе Майдану, можа, людзі прости загартаваліся?

Ніякіх прыкмет панікі няма, у крамах і на базарах ёсць усе прадукты, што звычайна. Усе прадпрыемствы і арганізацыі працуюць у звычайным рэжыме. Муж таксама ходзіць на працу.

Ніякага страху ў нас няма. Украінцы маюць такую асаблівасць, што чым больш на іх ціснуць, тым больш яны супраціўляюцца. Таму я спакойная: мы выстаім. А Пуцін, па-моймў, проста шызафрэнік.

### Андрэй Білык, гаспадар сеткі крамаў для турыстаў (Львоў)

У горадзе ўсё спакойна, толькі гатэлі стаяць пустыя — няма турыстаў з Расіі. Панікі ў Львове зусім няма — ніхто не верыць, што рускія могуць аж сюды дайсці. Пратэстаў амаль няма — усе хочуць пачаць працаваць урэшце.

Мэр наш звярнуўся да крымчан з падтрымкай. Калі казаць пра «абарону рускамоўных», то 28 працэнтаў львавян — рускія. Не рускамоўныя, а рускія.

Галоўная крыніца даходаў — турызм. Самыя багатыя — масквічы. Навошта нам прыцясняць тых, хто нас корміць? Гэта абсурд.

**Размаўляў Мікалай Левертаў**

# Новы «прэм'ер» Крыма на выбарах атрымаў усяго 4% галасоў



У крымінальных колах вядомы як «Гоблін».

Пра гэта расказаў народны дэпутат Украіны Андрэй Сенчанка — былы віцэ-прэм'ер Крымскай аўтаноміі. Ён лічыць, што сцэнар, які цяпер рэалізуецца ў Крыме, Масква рыхтавала некалькі месяцаў.

Партыя «Рускае адзінства» самаабвешчанага «прэм'ера» Крыма Сяргея Аксёнава набрала ўсяго 4% галасоў на апошніх выбарах у парламент Крыма і правяла туды ўсяго 3 дэпутатаў.

Тым не менш, акурат прадстаўніка гэтай партыі, нашмат больш радыкальнай за Партыю рэгіёнаў ці Кампартыю, зрабілі кіраўніком марыянеткавага ўрада, створанага пасля захопу Сімферопаля расійскімі вайскоўцамі.

Сенчанка распавёў дэталі біяграфіі «новага крымскага прэм'ера».

«Аксёнаў у сярэдзіне 90-х гадоў быў звычайным брыгадзірам у арганізаванай злачыннай групоўцы, ён быў вядомы ў Крыме ў крымінальных колах і міліцэйскіх колах пад мянушкай Гоблін», — расказаў дэпутат.

«Чалавек, які трох слоў звязаць не можа. З пэўнага моманту ён таксама заняўся палітыкай, я б паставіў кропкай адліку 2009 год: ён узначаліў структуру «Рускае адзінства» пасля некалькіх паездак і кансультацый у Маскве. Гэтая структура, мабыць, падтрымліваецца фінансава там», — лічыць Сенчанка.

**Мікола Бугай**

# Аслан Пашаеў: «Моладзь стала вывучаць крымскататарскую мову»

У гарачыя дні супрацьстаяння ў Крыме самай аб'ектыўнай крыніцай атрымання інфармацыі стаў тэлеканал ATR. Праз спадарожнік яго можна бачыць і ў Беларусі.

«Добры ў нас тэлеканал», — кажа журналіст гэтага СМІ Аслан Пашаеў. Ён да нядаўняга часу быў уласным карэспандэнтам ATR у Стамбуле, цяпер вярнуўся на радзіму. Пашаеў — самы папулярны блогер Крыма. Ягоныя пасты атрымліваюць сотні ўпадабанняў і тысячы перадрукаў.

**«Наша Ніва»: Вы напісалі, што сёння «Крым адзіны, як ніколі». Растлумачце.**



Крымскія татары на мітынгу ў Сімферопалі.

**Аслан Пашаеў:** Такія адчуванні, што міру хочуць усе. І рускія ў Севастопалі, і татары ў Бахчысараі, і ўкраінцы ў вёсках. Ніхто не хоча тут баявых дзеянняў. Таму я і кажу, што Крым з'яднаўся.

**«НН»: Чаму лідар крымскататарскага Меджліса Рафат Чубараў заклікаў татараў не ўдзельнічаць у мітынгах і акцыях пратэсту?**

**АП:** Для таго, каб захоўваць адчуванні мірнага жыцця. Гэта самае важнае. Татары — гэта вельмі кансалідаваная грамада, калі іх заклічуць на пратэст, то яны выйдуць. Масавы мітынг можа мець самыя нечаканыя вынікі. А яны сёння непатрэбныя.

**«НН»: Павялічаная прысутнасць расійскіх вайскоўцаў адчуваецца?**

**АП:** Ніякай напружанасці на вуліцах не адчуваецца. Пакуль што мы бачылі нейкіх незразумелых людзей, якія кудысьці перамяшчаліся ля вайсковай базы ў Перавальным.

**«НН»: Апошні перапіс насельніцтва быў праведзены ў 2001 годзе. Тады крымскія татары складалі 12% насельніцтва, ці 240 тысяч чалавек. Колькасць павялічылася?**

**АП:** Па самых розных дадзеных колькасць крымскіх татараў складае ад 350 да 500 тысяч чалавек. Значыць, павялічылася колькасць. [Найбольш крымскія татары прадстаўленыя ў Бахчысарайскім, Белагорскім, Джанкойскім, Кіраўскім, Ніжнягорскім, Сімферопальскім і Савецкім раёнах Крыма — «НН»].

**«НН»: На якой мове размаўляюць крымскія татары?**

**АП:** Большасць гаворыць па-руску. Аднак сталі актыўна вывучаць крымскататарскую мову. Гэтаму дапамагае існаванне тэлеканала ATR і радыёстанцыя Meydan. Існуе дзесяць крымскататарскіх школаў, ёсць асобныя класы.

**«НН»: Чаму татары падтрымліваюць захаванне Крыма ва Украіне?**

**АП:** Перш за ўсё таму, што людзі разумеюць, што цэласная Украіна — гэта пазітыўна. Гэта значыць, што і на ўсходзе, і на захадзе, і на поўдні краіны існуюць адны законы і адно прававое поле. Так склалася гістарычна, што крымскія татары падтрымлівалі ўкраінскую дзяржаўнасць і да развалу СССР, і ў 1991 годзе, і цяпер.



Аслан Пашаеў.

**«НН»: А турэцкая прысутнасць у Крыме адчуваецца?**

**АП:** Канечне, тут дзейнічаюць нейкія турэцкія гуманітарныя праграмы. Ёсць вялікая дыяспара крымскіх татараў, што жыве ў Турцыі. Аднак, калі казаць пра турэцкі бізнэс, то ён больш заўважны ў Кіеве і Адэсе. Ды нават у Львове ён лепш прадстаўлены, чым у нас.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

### Назва «Крым»

найхутчэй паходзіць ад цюркскага «хэрэм» (сцяна, вал, умацаванне – некаторыя даследчыкі кажуць, што і «крэмль» ад таго ж кораня). Ёсць версія, што назва паўвыспы – ад слова «кырым» – роў. Кырымам у Сярэднявеччы называлася сённяшняе паселішча Стары Крым, стаўка крымскага хана. Пазней назва пашырылася на ўсю тэрыторыю паўвострава. Ёсць і трэцяя версія: спачатку татары назвалі Крым Кырым адасы – «востраў за ровам». А пасля скарацілі для зручнасці.

### Крымскія татары

цюркамоўны народ, які насяляе Крым. Калі Крым увайшоў у склад Расійскай Імперыі (канец XVIII ст), то амаль 90% насельніцтва паўвострава складалі татары. Рускіх было каля 4%. І царызм, і саветы масава засялялі Крым рускім насельніцтвам. Праз 100 гадоў і рускіх, і татараў было прыкладна па трэціне. У маі 1944-га крымскіх татараў гвалтоўна дэпартавалі са сваёй радзімы, патлумачыўшы гэта іх калабарацыянізмам у гады вайны. Іх накіравалі ва Узбекістан, Марыйскую АССР, Казахстан, Кастрамскую вобласць. Толькі развал СССР дазволіў татарам вярнуцца на сваю тэрыторыю.

Крымскія татары падтрымалі ўкраінскую дзяржаву, прызналі яе сваёй. Сёння каля 15% насельніцтва Крыма складаюць крымскія татары. Паводле вынікаў апошняга перапісу, у Беларусі пражывае 12 крымскіх татараў.

## З фэйсбука Аслана Пашаева

### Крым акупаваны

Не расейцамі, не сусветнай жыдамасонскай або татара-бандэраўскай змовай. Крым у руках крыміналу.

### Крымскія татары неаднастайныя

Яны абралі свой Меджліс на курултаі. У выбарах курултая крымскататарскага народа ўзялі ўдзел больш за 52% крымскіх татараў, і калі вы чуеце, што «Меджліс прадаўся, дамовіўся з Аксёнавым (Пуціным)» — гэта няпраўда. З бандытам па мянушцы «Гоблін» калегіяльны орган народа, які перажыў трагедыю 1944, не дамовіцца.

Ёсць рэлігійна-палітычная плынь «Хізб-ут-Тахрыр», якая выступае за пабудову Халіфата. Іх каля 15 тысяч чалавек. Менавіта іх ужо спрабавалі зрабіць адказнымі за замах на Мустафу Джэмілева некалькі гадоў таму. «Такфірытамі» аказаліся псіхічна нездаровыя людзі, якіх прыкладна аднолькавая колькасць у любой выбарцы. Калі пачуеце аб іх зверствах, то гэта няпраўда. Тыя хізбоўцы, якіх я ведаю, жадаюць міру, а гэта лідары меркаваннаў у іх асяроддзі.

Ёсць салафіты — найбольш артадаксальная плынь, якіх часам называюць «вахабітамі». Іх цэнтрам з'яўляецца Qurşa camisi (Курцоўская мячэць). Гэта ўсяго 1 км ад майго дома ў Сімферопалі. Многія з іх будавалі наш дом. Яны таксама хочуць міру.

Ёсць хабашыты з цэнтрам у Кезлеве (Еўпаторыя). Яны завязаныя з Духоўным кіраваннем мусульман Украіны ў Кіеве. Іх прадстаўнік кожную нядзелю выступаў са сцэны Майдану, і яны таксама хочуць міру.

Ну і, вядома, найбольш шматлікае Духоўнае ўпраўленне мусульман Крыма на чале з муфтыем Эмірам Алі-эфендзі хоча міру. Я слухаў іх хутбы ў цэнтральнай мячэці Кебір-Джам.

Крымскія татары — карэнны народ паўвострава — хоча міру ў Крыме для ўсіх.

# Уладзімір Кудзінаў: Рэферэндум падтрымае толькі Севастопаль

Былы дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання і былы палітвязень, прадпрымальнік Уладзімір Кудзінаў ад 1999 жыве і працуе ў Крыме. Калі мы датэлефанаваліся сп.Кудзінаву, ён знаходзіўся ў Севастопалі.

**«Наша Ніва»: Напружанасць на паўвостраве адчуваецца?**

**Уладзімір Кудзінаў:** У горадзе, у простых грамадзян ніякай напружанасці не адчуваецца. Калі нейкія сутычкі і адбываюцца, то каля ўкраінскіх вайсковых часцей. Для мяне відавочна, што расійскія войскі не сыдуць з Крыма да правядзення рэферэндуму. Людзі, вядома, не хочуць ваенных дзеянняў. Разумныя кажуць аб асаблівым статусе горада Севастопаля. Тут павінны праходзіць прамыя выбары, каб людзі самі выбіралі мясцовую ўладу. Абсалютна ўсе зацікаўленыя ў дэмакратычнай абстаноўцы ў рэгіёне. Па-другое, Севастопалю варта надаць статус свабоднай эканамічнай зоны, зрабіць палёгкі для вядзення бізнэсу. Каб сюды, не баючыся, маглі ехаць украінскія, расійскія, амерыканскія бізнэсмены.

**«НН»: Сітуацыя ў Севастопалі і астатнім Крыме моцна розніцца?**

**УК:** Канечне. Па маіх назіраннях, у Севастопалі ўваходжанне ў склад Расіі ці абвяшчэнне незалежнасці Крыма падтрымала б каля 70% жыхароў, тады як на астатнім паўвостраве — не болей за 40%.

**«НН»: Якія чаканні ад рэферэндуму?**

**УК:** Я перакананы, калі будзе тры варыянты: а) уваходжанне Крыма ў склад Расіі, б) абвяшчэнне незалежнасці, в) застацца ў складзе Украіны, то ніводны з іх не набярэ больш за 50% галасоў выбарцаў. Але важна, як лічаць, а не як галасуюць. Патрэбна, каб волевыяўленне грамадзян было свабодным, а не пад дуламі расійскіх аўтаматаў, а так можа быць. Трэба ўтрымліваць сітуацыю так, каб не загінулі людзі.

**«НН»: Мясцовыя беларусы як рэагуюць на падзеі?**

**УК:** У мяне ёсць некалькі знаёмых этнічных беларусаў, якія атрымалі ўкраінскае грамадзянства. Дык яны выступаюць, каб ранейшы стан рэчаў заставаўся. Яны не зацікаўленыя ў аддзяленні Крыма ад Украіны.

**«НН»: Павелічэнне расійскай прысутнасці адчуваецца?**


Уладзімір Кудзінаў з жонкай.

**УК:** Ну так, каля нейкіх пастоў, базаў. Але ў гарадах — не сказаў бы. Тыя ж адміністрацыйныя будынкі ў Сімферопалі захоплівалі людзі без апазнавальных знакаў. На іх не было расійскай вайсковай формы. Гэта таксама раздражняе людзей. Калі Пуцін абвясціў вайну славянскаму свету, то няхай так і кажа, а не хаваецца за людзьмі ў масках.

**«НН»: А пагрозы ізаляцыі ў выпадку аддзялення Крыма людзі не баяцца? Крым — гэта турыстычны рэгіён, ці няма рызыкі застацца сёлета без турыстаў?**

**УК:** Калі не будзе ваенных дзеянняў, то беларусы, украінцы, рускія ўсё адно паедуць у Крым на адпачынак. Сезон тут пачынаецца ў пачатку мая, магчыма, да гэтага часу нешта ўжо атрымаецца разруліць. Многія кажуць, што ім без розніцы, якая будзе ўлада — руская, украінская ці амерыканская, — галоўнае, каб усё было дэмакратычна. Ніхто ж не абараняе Януковіча, усе ведаюць, што ён злодзей, бачылі ягоныя палацы.

**«НН»: Дык які Ваш прагноз?**

**УК:** Нешта прагназаваць вельмі цяжка. Відавочна сёння, што Расія не адступіць. Мне падабаецца рэакцыя ўкраінскага боку, што яны спрабуюць не нагнятаць сітуацыю, спыняюць усе правакацыі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**




**Рускай мове ва Украіне перавагу аддаюць у Данбасе, Адэсе і Крыме. Карта: доля людзей (%), якія лічаць украінскую мову роднай, па абласцях.**




**Рускія складаюць большасць толькі ў Крыме. Карта: доля рускіх у насельніцтве абласцей Украіны, % (звесткі перапісу 2001).**




**За Януковіча выступаў поўдзень, на поўначы краіны «зэка» ніколі не любілі. Карта: галасаванне за Януковіча па абласцях, другі тур выбараў 2010 года.**

# Судэты = Крым?

Падзеі ў Крыме выклікаюць у аналітыкаў шматлікія асацыяцыі з Судэцкім крызісам 1938 года.

### Насельніцтва рэгіёна — не самае вялікае ў краіне.

Судэцкая вобласць — тэрыторыя Чэхаславакіі (цяпер — Чэхіі). 90% яе насельніцтва складалі немцы. У межах Чэхаславакіі яны мелі шырокую аўтаномію, самакіраванне, адукацыю на сваёй мове, у іх былі дэпутаты ў парламенце. Але частка судэцкіх немцаў — яно ж немцы, ведама, — хацела ўз'яднання з Германіяй. Выразнікам іх інтарэсаў з'яўлялася Судэцка-нямецкая партыя, якая фінансавалася з Берліна.

### Абарона рускамоўных

«Больш за дзесяць мільёнаў немцаў жывуць у двух дзяржавах, размешчаных каля нашых межаў, — казаў Гітлер. — Не можа быць сумневаў, што палітычнае аддзяленне ад рэйха не павінна прывесці да пазбаўлення іх правоў, дакладней, асноўнага права — на самавызначэнне. Для сусветнай дзяржавы нясцерпна ўсведамляць, што браты па расе, якія падтрымліваюць яе, падвяргаюцца самаму жорсткаму пераследу і пакутам за сваё імкненне быць разам з нацыяй, падзяліць яе лёс».

Гітлер звярнуўся да рэйхстага з заклікам «звярнуць увагу на жахлівыя ўмовы жыцця нямецкіх братоў у Чэхаславакіі». Гэта амаль з дакладнасцю супадае з прапагандай расійскага ТВ пра рускамоўных Украіны. У рэальнасці ж, ні немцы Судэтаў, ні рускія Украіны не зазнавалі ніякай дыскрымінацыі.

### Захоп рэсурсаў?

Прамысловасць Чэхаславакіі з'яўлялася адной з самых моцных у Еўропе. Прычым частка прадпрыемстваў (як і абарончых збудаванняў) знаходзілася менавіта ў Судэтах. Прэтэндуючы на рэгіён, Гітлер разлічваў узмацніць уласную рэсурсавую базу.

Цікава, што большасць прамысловых прадпрыемстваў Украіны і нядаўна адкрытыя радовішчы нафты і газу на шэльфе размяшчаецца якраз на ўсходзе краіны.

### Пазіцыя заходніх дзяржаў

Судэцкая вобласць перайшла да Германіі ў выніку Мюнхенскай змовы. Заходнія дзяржавы пайшлі на яе падпісанне, бо спадзяваліся прадухіліць вайну. Прэм'ер Англіі Чэмберлен паказаў тэкст дамовы публіцы са словамі «Я прывёз вам мір». Яны пакінулі Чэхаславакію сам-насам з немцамі.

Нават Польшча тады пажывілася маленькім кавалкам Чэхаславаччыны. А хутка ўжо Польшча стала наступнай ахвярай агрэсіі.

### Воўк прагне крыві

Спярша Гітлер прэтэндаваў толькі на Судэты. Але менш чым праз год, скарыстаўшыся з хаосу, выкліканага аддзяленнем Судэтаў, Гітлер далучыў да Трэцяга Рэйха ўжо ўсю Чэхаславакію.

Прэзідэнт Інстытута грамадскіх праблем у Браціславе (Славаччына) Рыгор Мясежнікаў лічыць, што «Расія акупуе частку тэрыторыі Украіны і будзе інспіраваць унутры Крыма падзеі, якія ёй выгадныя і прывядуць, у канчатковым выніку, да фактычнага аддзялення Крыма ад Украіны». Цікава: ці абмяжоўваюцца планы Пуціна Крымскім паўвостравам?

**Андрусь Вяткоўскі**

# Былы пасол Украіны ў Беларусі: У Міжгор'і ў мяне здарыўся культурны шок

9 сакавіка спаўняецца 200 гадоў з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Былы пасол Украіны ў Беларусі, былы міністр культуры Украіны і былы дырэктар Шаўчэнкаўскага музея-запаведніка ў Каневе Ігар Ліхавы расказваў «Нашай Ніве» аб падрыхтоўцы да юбілея, а таксама... аб рэзідэнцыі Віктара Януковіча «Міжгор'е».

**«Наша Ніва»: Украіна рыхтуецца да 200-годдзя Тараса Шаўчэнкі. Вы адзін з самых вядомых шаўчэнказнаўцаў. Раскажыце, як будзе святкавацца юбілей?**

**Ігар Ліхавы:** Канечне, цяпер краіна пад пагрозай акупацыі, і святкаванні не будуць шырокамаштабнымі.

Шаўчэнка — гэта той чалавек, які стварыў украінскую нацыю, яе светаўспрыманне..

Чым Шаўчэнка сёння актуальны? Ён, як ніхто іншы, адчуў унутраныя сілы, арыенціры ўкраінскай нацыі. Тады ў нас не было дзяржаўнасці, украінская мова існавала толькі ў вёсцы, гісторыя выйшла скрыўленая. Шаўчэнка ж змог сфармуляваць тры важныя пытанні: усведамленне свайго нацыяльнальнага развіцця, дасягненне сацыяльнай свабоды і абарона асабістай годнасці. Пры бальшавіках больш гаварылі пра сацыяльную свабоду, крыху пра нацыянальнае вызначэнне, а вось пра годнасць зусім забывалі.

**«НН»: А сёння ён застаецца актуальным?**

**ІЛ:** Вось ён пісаў:

Коли ти видохнеш? Коли
Ми діждемося Вашингтона
З новим і праведним законом?
А діждемось-таки колись.

Хіба гэта не актуальна сёння? Ці, напрыклад, пачатак паэмы «Кацярына» часта ўзгадваецца ў гэтыя дні.

Кохайтеся, чорнобриві,
Та не з москалями,
Бо москалі — чужі люде,
Роблять лихо з вами.

Таксама звярніце ўвагу, што верш прысвечаны Васілію Жукоўскаму, вядомаму расійскаму паэту, настаўніку імператарскіх дзяцей. «Маскаль» — гэта не рускі, гэта тыпаж кшталту Жырыноўскага, які ведае, дзе і як трэба што зрабіць, а потым памыць боты ў Індыйскім акіяне, што Абаму рабіць, што Меркель, ну а суседнія тэрыторыі «маскалём» успрымаюцца як свае.

А вось урывак з паэмы «Гайдамакі»:

Жінки навіть з рогачами
Пішли в гайдамаки.

Сугучна з тымі падзеямі, што сёлета адбыліся ў гарадку Звенігародка, на малой радзіме Шаўчэнкі, дзе жанчыны блакавалі аўтобусы з «цітушкамі», што накіроўваліся ў Кіеў.

У кожным украінцу, незалежна ад таго, ці ўкраінскамоўны, ці рускамоўны, ёсць нешта ад Шаўчэнкі. Нездарма на Майдане, на сцэне, амаль увесь час вісеў партрэт Шаўчэнкі. А колькі меншых партрэтаў было на шчытах у пратэстоўцаў, на палатках.

Я бачыў, як людзі спявалі ўсім Майданам «Запавет» і «Реве та стогне Дніпр широкий».

**«НН»: Януковіч збіраўся адзначаць юбілей вялікага паэта?**

**ІЛ:** У 2007 годзе я быў сведкам, як у Беларусі адзначаліся юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Мне было балюча на гэта глядзець. А потым я пабачыў тое самае ва Украіне.

Для Януковіча ўсё зводзілася да будаўніцтва нейкіх бязмозглых аб'ектаў у Каневе, дзе знаходзіцца шаўчэнкаўскі запаведнік. Януковіч пабудаваў там вертадром, якім скарысталіся толькі аднойчы! Ён хацеў, каб на 200-годдзі там былі Пуцін, прэзідэнт Казахстана... Беларусь, праз якую Шаўчэнка двойчы праязджаў, не была ўключаная ў спіс краін па святкаванні юбілею. Для мяне гэта было дзіўным.

Дарэчы, усе юбілеі Шаўчэнкі прыходзіліся на нялёгкія гады. У 1914 пачалася Першая сусветная вайна, у 1939 — Другая.

**«НН»: Наколькі мне вядома, Вы былі адным з першых, хто трапіў у рэзідэнцыю Януковіча ў Міжгор'і.**

**ІЛ:** Так, фактычна гэта было на другі дзень пасля ўцёкаў дыктатара. Мяне запрасілі ў камісію, якая павінна была ацаніць тамтэйшыя каштоўнасці, іхнюю вартасць.

Я шмат чаго бачыў, быў ва ўрадавых дэлегацыях, дыпламатычных, але такога не бачыў ніколі. У мяне проста здарыўся культурны шок.

Найперш — гэта адчуванне абсурду. Ніякай логікі ў пабудове не было, змяшанне розных



**Ігар Ліхавы**

Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Жытомірскай вобласці. Дырэктар Канеўскага дзяржаўнага музея-запаведніка Тараса Шаўчэнкі (1989 — 2005). Быў міністрам культуры і турызму ва ўрадзе Еханурава (2005—2007), паслом Украіны ў Беларусі (2007—2010). Цяпер дарадца ў Вярхоўнай Радзе.

стыляў. І жыць там нязручна, і як рэзідэнцыю выкарыстоўваць таксама.

Мяне ўразіла, што зусім побач з палацам знаходзілася ферма, каго там толькі не было: свінні, хатнія і дзікія, козы, антылопы, алені, горныя казлы, жураўы, рэдкія дропы, здаецца, абсалютна ўсе вядомыя віды страусаў, фазаны, ну і як жа султану без цэсарак і паваў.

Былі цяпліцы, ясна — здаровае харчаванне. Але з тых цяпліцаў магла харчавацца цэлая вайсковая часць. Я б зразумеў, каб Януковіч быў чалавекам вясковым...

Аграмадная колькасць нават нераспакаваных карцін. Цікавая дэталь: іх яму дарылі з абавязковай ацэнкай кошту на адваротным баку. Сапраўднаму калекцыянеру важны твор мастацтва, а не яго кошт. Тут жа было ўсё наадварот. Бясконцая колькасць аўтамабіляў. Толькі садоўнікаў было каля 150 чалавек!

Потым мяне зусім прыбілі ружовыя інтэр'еры ў доме генпракурора Пшонкі. Куды маглі завесці краіну такія людзі?

Вопіс маёмасці мы так і не змаглі пачаць. Бо яшчэ не зусім зразумела, у чыёй уласнасці гэта знаходзіцца. Мне здаецца, што ў Міжгор'і трэба захаваць гэты палац, хоць гэта будзе дорага і цяжка, як музей аўтарытарызму. Каб была прышчэпка супраць паўтарэння такога ў будучыні.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Тарас Шаўчэнка** — украінскі геній. Нарадзіўся як прыгонны селянін, але стаў вялікім творцам. Стварыў паэзію, якая захапіла народ, многія вершы сталі народнымі песнямі. **На фота — яго аўтапартрэт**. Быў не проста лірыкам, меў глыбокае разуменне гісторыі і палітыкі. Пра Расійскую Імперыю ў паэме «Каўказ» напісаў з тонкай іроніяй: «Тут на ўсіх мовах усё маўчыць, бо благадзенствуе». Расійскія ўлады выслалі яго салдатам у пустыні Казахстана, дзе нават паперы, каб пісаць, бракавала.

**Каментар**

# Сёння мы ўсе ўкраінцы

Сёння ніхто ў рэгіёне не можа адчуваць сябе бяспечна, піша беларускі філосаф **Пётра Рудкоўскі**.

Дык вось ажно як забалеў крамлёўскаму аўтакрату бунт у суседняй дзяржаве супраць яго імперыялізму і звяржэнне яго-нага «законнага» васала. У вачах Крамля Украіна — гэта васал Расеі, і кропка. І прыгадваецца біблейнае: «Калі з зялёным дрэвам такое дзеецца, то што стане з сухім?» Калі Імперыя адважылася ўвесці войскі ў амаль 50-мільённую краіну з моцнай нацыянальнаю тоеснасцю, то што можа стацца з 10-мільённай — са слабой тоеснасцю і кволымі падмуркамі суверэнітэту?

Ідэалогія еўраазіятызму можа здавацца дзіўнаватай канструкцыяй. Але ж яна стала дактрынай Крамля. Пра яе гавораць на тэлебачанні, яна прыжылася ўнутры сілавых структур. Дарагім госцем мерапрыемстваў дзяржаўнага ўзроўню стаў галоўны жрэц еўраазіятызму — Аляксандр Дугін.

У 80-х Дугін быў членам «Чорнага ордэна SS», у 90-х — адным з лідараў «Нацыянал-бальшавіцкай партыі», якая намагалася спалучаць нацызм і сталінізм.

Ён зрабіў стаўку на пранікание «ўнутр» уладных структур і ўплыў на вялікую палітыку знутры. І не праліčыўся: у пуцінскай камандзе ён знайшоў мноства ўдзячных слухачоў.

У Расіі кажуць, што абвясцілі вайну «неанацызму», які быццам бы распаўзаецца па Украіне. Крамлёўская прапаганда маніпулюе паняццямі. Я ніколі не сімпатызаваў украінскаму нацыянальнаму радыкалізму, аднак бачу выразную розніцу паміж украінскім нацыяналізмам і расейскім еўраазіятызмам.

Украінскі нацыяналізм — пераважна абарончы, з моцным культурніцкім кампанентам — ні ў якое параўнанне не ідзе з агрэсіўным, імперыялісцкім, акультурным і суцэльна мілітарызаваным расейскім еўраазіятызмам. Украінскія нацыяналісты — гэта ўсяго толькі адна з сілаў, і далёка не асноўная, якая стаяла за падзеямі Еўрамайдану.

Але заўважу, што трэба адрозніваць расейскую культуру і крамлёўскі імперыялізм. Расейская культура — каштоўная і вялікая, імперыялізм — небяспечны і разбуральны.

Слава Украіне! Жыве Беларусь!

# Дэзы

## Як расійская прапаганда хлусіла пра Украіну

Падчас Крымскага крызісу расійскія СМІ вылілі на слухачоў мора прапагандысцкай хлусні. Нават такія нібыта салідныя СМІ, як Першы канал, тэлеканалы НТВ і «Россія», інфармагенцтвы ІТАР-ТАСС, РІА «Новості» і «Інтэрфакс», газета «Ізвестія» бралі ўдзел у гэтым удзел. Падаём самыя відавочныя факты дэзінфармацыі.

**«Вераломная правакацыя»**

1 сакавіка расійскі МЗС паведаміў пра «вераломную правакацыю»: нібыта ўзброеныя людзі па загадзе Кіева спрабавалі ўначы захапіць будынак МУС у Сімферопалі. Напад быў адбіты, але ёсць пацярпелыя, казаў МЗС. Заяву шырока працытавалі расійскія СМІ.

Следам пра «правакацыю» казала і спікер Савета федэрацыі Расіі Валянціна Мацвіенка на тэрміновым пасяджэнні верхняй палаты расійскага парламента. Мацвіенка дадала, што ў Крыме ёсць чалавечыя ахвяры, «у тым ліку і сярод расейцаў». А таксама «ёсць пагроза бяспецы людзей па палітычных, рэлігійных матывах, нацыяналістычныя заклікі, увогуле забарона гаварыць па Украіне па-расейску». Дэпутаты аднагалосна прагаласавалі за ўвод войскаў у Крым.

Пазней звесткі аб чалавечых ахвярах падчас нападу абверг генконсул Расіі ў Крыме Святлічны. А міліцыя Крыма абвергла ўвогуле сам факт нападу на будынак.

**«Гетман Сагайдачны»**

Фрэгат «Гетман Сагайдачны» — сціплы, невялікі флагман украінскага флоту. Калі здарыліся ўсе гэтыя падзеі, фрэгат удзельнічаў у супольнай місіі сілаў НАТА і Еўрасаюза па змаганні з піратамі каля берагоў Самалі. Расійскія СМІ дружна паведамілі, што экіпаж карабля разам з капітанам перайшоў на бок Расіі і падняў «андрэеўскі сцяг». У якасці крыніцы інфармацыі фігураваў сайт «Украінская праўда» — адзін з самых прафесійных украінскіх рэсурсаў. Аднак спасылка вяла на... фэйкавую копію сайта.

Іншыя СМІ цытавалі члена Савета федэрацыі РФ Ігара Марозава, які сказаў, што экіпаж «Сагайдачнага» выканаў распараджэнне Януковіча — фрэгат гатовы падпарадкавацца расійскаму боку і ідзе ў порт прыпіскі — Севастопаль. «Цяпер ва Украіны практычна няма флоту», — рэзюмаваў Марозаў.

Мінабароны Украіны абвергла інфармацыю пра здраду «Сагайдачнага». А самі маракі адрэагавалі на расійскую прапаганду з гумарам. Яны выстраіліся ў форме літар UA на палубе. Як толькі ўзнікла пагроза вайны, «Гетман Сагайдачны» ўзяў курс на Чорнае мора і па стане на аўторак перасёк Басфор, каб браць удзел у абароне берагоў Украіны ў выпадку агрэсіі.



**«Невядомыя ўзброеныя людзі»**

Усе правакацыі ў Крыме прапаганда падавала як ініцыятыву «сілаў самаабароны расейскамоўных жыхароў Крыма». Тыя «сілы самаабароны» мелі новенькае абмундзіраванне спецназа ГРУ Расіі і такую ж новую зброю — праўда, без апазнавальных знакаў. І ўсё ж адну бірку ўдалося сфатаграфаваць, калі «невядомыя» спрабавалі адключыць электрычнасць у штабе ВМС Украіны.

Пазначанага на бірцы імені было дастаткова, каб адшукаць падрабязнасці біяграфіі ў сацыяльных сетках: гвардыі радавы Арман Дасанаў, салдат спецназа Галоўнага разведвальнага ўпраўлення РФ з Саратаўскай вобласці.





«Бандэраўцы» з расійскімі гранатамётамі.

**«Бандэраўцы» з расійскімі гранатамётамі**

У суботу па расійскім тэлеканале «Весті» прайшоў рэпартаж пра перастрэлку ў Сімферопалі. Былі паказаныя «украінскія баевікі» з закрытымі тварамі і целы расійскіх вайскоўцаў, якія нерухома ляжалі на зямлі.

Блогеры звярнулі ўвагу на тое, што ў сюжэце «бандэраўцы» ўзброеныя найноўшай расійскай зброяй. Гэта аўтаматы АК 100-й серыі і гранатамёты РГ-94, якія ёсць на ўзбраенні толькі ў войсках РФ!

Таксама блогеры звярнулі ўвагу на тое, што аўтобусы, на якіх прыехалі «бандэраўцы» маюць не львоўскія, а крымскія нумары, а на адным з іх напісана зусім не «Львоў. Майдан», а «Парк львоў. Тайган» — гэта ў Ялце.

Звярталі ўвагу і на тое, што «трупы» расійскіх вайскоўцаў ляжаць як жывыя людзі, і крыві пад імі няма. Відаць, касцюмаванае шоу арганізавалі спецыяльна, каб зняць рэпартаж «Вестей».

Сведкамі гэтай пастаноўкі стала здымачная група крымскататарскага тэлеканала АТР. Як паведамілі журналісты, удзень у суботу ў Сімферопалі пачалася незразумелая страляніна. Здымачная група кінулася туды высветліць, што здарылася, але журналістаў збілі невядомыя. Усё гэта пайшло ў жывым эфіры.

**Ліст Яраша Умараву**

Навіна пра тое, што лідар «Правага сектару» Дзмітрый Яраш звярнуўся да камандзіра чачэнскіх баевікоў Доку Умарава па дапамогу ўсе расійскія СМІ цытавалі дзясяткі разоў.

«З'явіўся зварот да Умарава на старонцы «Правага сектару». Многія ўкраінцы ваявалі ў Чачні на баку сепаратыстаў, што цяпер надышоў час народам Каўказа ўстаць за Украіну і скарыстаць свой шанец, адзначалася ў звароце. На гэта імгненна зрэагаваў прарасійскі кіраўнік Чачні Рамзан Кадыраў, які паабяцаў разабрацца з Ярашам і «Правым сектарам», — штогадзіны вяшчаў тэлеканал «Расія-24».

У гісторыі некалькі дзіўных момантаў. Па-першае, Доку Умараў забіты. Гэта прызналі і лідары сепаратыстаў. Па-другое, чаму «Правы сектар», які мае афіцыйны сайт, змясціў зварот не там, а на старонцы ў сацыяльнай сетцы? І, па-трэцяе, іранізуюць блогеры, няўжо яны разлічвалі, што чачэнскія сепаратысты адкажуць ім у каментах пад зваротам? Для такіх зваротаў ёсць больш сакрэтныя спосабы.

«Правы сектар» патлумачыў, што старонка арганізацыі Укантакце была ўзламаная і «зварот» з'явіўся там сам сабою.

**«Амерыканскія баевікі» ў Жулянах**

«З ночы 2 сакавіка ў Жуляны і Барыспаль чартарнымі рэйсамі пачалі прыбываць моцныя маладыя мужчыны ў цывільнай вопратцы — але кожны з некалькімі аб'ёмнымі палявымі сумкамі, у якіх у войску ЗША звычайна перавозяць камплекты экіпіроўкі... Прыбыло ўжо 300 чалавек», — далей малавядомы сайт Politikus.ru, які змясціў гэтую хлусню, пераконвае, што гэта — наймiты, якія будуць за амерыканскія грошы рабіць дыверсіі ў Крыме і на ўсходзе Украіны. Каб падмацаваць дэзу, у артыкуле даецца спасылка на РІА «Новості». Аднак на сайце расійскага інфармагенцтва пра амерыканскіх баевікоў нічога няма: там артыкул пра нізкую яўку на прызыўныя пункты ва Украіне. Вось, маўляў, замест прызыўнікоў, якія не хочаць ваяваць з расейскімі братамі, і едуць ва Украіну амерыканцы, пераконвае «Палітыкус».

**Стоп-фэйк**

Украінцы стварылі сайт StopFake.org, у якім выкрываюцца факты хлусні расійскай прапаганды.



**Сцяг над Харкавам**

«Харкаўчане вывесілі расійскі сцяг на будынку сваёй абладміністрацыі», — грымелі 1 сакавіка расійскія тэлеканалы. Аказалася, што сцяг вывесіў... масквіч Міхаіл Ранкайнен, які спецыяльна прыехаў ва Украіну, каб удзельнічаць у «антымайдане». І ён, вядома, не мог не пахваліцца сваім геройствам на сваёй старонцы Укантакце.

З яго старонкі ў сацыяльных сетках журналісты даведаліся пра яго спецыфічныя інтарэсы: напрыклад, ён пазуе перад камерай у нацысцкай форме. Сам ён сцвярджае, што здымаўся ў рамках гістарычнай рэканструкцыі. Але нават калі так, нашто бравіраваць такімі кадрамі?

**«Карэнныя адэсіткі» і «карэнныя харкаўчанкі»**





Цікавае назіранне зрабілі інтэрнаўты, супаставіўшы ролікі з Сімферопаля і Харкава. На іх — адны і тыя ж людзі. У Харкаве яны, пасля захопу прарасійскімі штурмавікамі абладміністрацыі і збіцця «майданаўцаў» 1 сакавіка, носяць і паказваюць «знойдзеныя ў кабінетах» бутэлькі і торбу са шпрыцамі. І тыя ж самыя дамы ў сюжэце ад 3 сакавіка з Сімферопаля, назваўшыся «карэннымі адэсіткамі», са слязамі на вачах расказваюць пра зверствы «бандэраўцаў» і просяць у Расіі помачы.

**Керы дапісалі**

Але ўсіх пераплюнула інфармагенства ІТАР-ТАСС, якое, цытуючы заяву дзяржсакратара ЗША, якая тычылася Украіны, «дадумала» за Джона Керы шэраг тэзісаў. Напрыклад, у тэксце з'явіліся фразы пра тое, што «Амерыка гатовая дзейнічаць разам з Расіяй «супраць любых хуліганаў і бандыцкіх выхадак», «мы разумеем, што ў Расіі ёсць інтарэсы ў Крыме» і г.д. Тым часам Керы ў сваёй заяве казаў: «У XXI стагоддзі ўжо нельга паводзіць сябе як у XIX-м і ўломвацца ў іншую краіну з цалкам надуманай прычыны». Калі Расія не ўрэгулюе крызіс, яе чакаюць эканамічныя санкцыі, адзначаў Керы.

Сяргей Мікулевіч

# Колькі зарабляюць мінскія кандыдаты ў дэпутаты?

Ад прадпрымальніка, які мае **$40 тысяч штомесяц**, да Сяргея Вазняка.

Чарговыя выбары ў мясцовыя саветы выклікаюць малую цікавасць у грамадзян. Падчас папярэдняй кампаніі яўка мусіла перавышаць 50%, таму ўлады былі вымушаныя «падцягваць» лічбы. І нават пры гэтым у Мінску ўдалося «намаляваць» толькі 58,7%. Цяпер патрабаванні да мінімальнай яўкі адмянілі, таму неабходнасць у скліканні выбаршчыкаў знікне.

У чым перавага мясцовых выбараў, дык гэта ў тым, што яны дазваляюць убачыць зрэз заробкаў па краіне. «Наша Ніва» азнаёмілася з дэкларацыямі сталічных кандыдатаў. На якіх пасадах зарабляюць больш, а на якіх менш?

У дэкларацыях указваецца агульная сума гадавога даходу. У яго могуць уваходзіць заробак, пенсія і стыпендыя, даход ад продажу кватэры ці аўтамабіля, дывідэнды ад акцый. Долю кожнай з крыніц пралічыць немагчыма, мы пралічваем сярэдні даход за месяц. Варта памятаць, што кандыдат у дэпутаты мог на працягу года змяняць месца працы.


Сяргей Калякін са «Справядлівага свету»– адзіны лідар партыі, які спрабуе прабіцца ў Мінгарсавет.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мясцовыя дэпутаты пры абранні захоўваюць ранейшую працу, за статус дэпутата ніякіх даплат яны не маюць. На прафесійнай аснове працуе толькі старшыня савета. Кіраўнік Мінгарсавета Васіль Панасюк летась зарабляў па $17 мільёнаў штомесяц. Сёлета ён балатуецца зноў.

### Багацеі і жабракі

Самыя багатыя ў рэйтынгу — прадпрымальнікі. Абсалютны лідар спіса — **Андрэй Ратасеп**. Паводле дэкларацыі, 33-гадовы беспартыйны ІП-шнік штомесяц меў даход памерам $40,4 тысячы! Агулам — больш за $2 мільёны. Што праўда, і выдаткі ў яго маглі быць адпаведныя. З маёмасці ў Ратасепа ёсць толькі аўтамабіль.

Будаўнікі зарабляюць менш, але таксама жывуць заможна. Начальнік філіяла будаўнічага трэста №3 **Міхаіл Макаранка** штомесяц меў па $11,3 тысячы.

Дырэктар спартыўна-аздараўленчага комплексу «Алімпійскі» **Сяргей Казлоў** штомесяц зарабляў па 53 мільёны рублёў. Ён адзін з нямногіх сяброў Беларускай сацыяльна-спартыўнай партыі. Мае два легкавікі, а вось жылля няма.

Дырэктар «Мінскага холада-камбіната №2» **Аляксандр Рубінаў** атрымліваў па 46 мільёнаў. Але ў яго пэўны даход маглі прыносіць акцыі сеткі крамаў «Жывінка».

Самая багатая прадстаўніца ЛДПБ **Наталля Башура** цяпер часова не працуе, але летась у сярэднім за месяц зарабляла па 43 мільёны. Дапамагае маёмасць: у Наталлі ёсць кватэра, склады і будынак крамы. А таксама 50% статутнага фонду кампаніі «Бікам сэрвіс».

**Ігар Бабок** — намеснік па ідэалогіі на «Мілавіцы». Два гады таму ён прабіваўся ў парламент. Аднак па ягонай акрузе ішоў старшыня пастаяннай камісіі палаты прадстаўнікоў Мікалай Самасейка, таму Бабку пакінулі толькі 16,7% галасоў. Цяпер ён спрабуе прайсці ў мясцовыя саветы. Леташні даход Бабка складаў 41 мільён. Але і без іх ён заможны чалавек: мае дзве кватэры і два легкавікі. Ёсць і адна акцыя «Мілавіцы».

А вось дырэктар аэрапорта **Дзмітрый Мелікян** маёмасці не мае. Затое даход — 37 мільёнаў.

Дырэктар «Галантэі» **Аляксандр Набздораў** атрымліваў па 35 мільёнаў. Але яму дадатковыя грошы маглі прыносіць 2500 акцый ягонага прадпрыемства.

З адваротнага боку рэйтынга тыя, хто ніякага даходу не мае. Гэта некалькі студэнтаў-платнікаў, а таксама **Сяргей Вазняк** са «Справядлівага свету». Дзіўная сітуацыя: ён лічыцца галоўным рэдактарам газеты «Таварыш», але пры гэтым ніякіх грошай не зарабляе. Зусім. Хоць, паводле заканадаўства, не можа атрымліваць хаця б мінімальны заробак. Выбарчай камісіі Вазняк патлумачыў, што жыве «за кошт раней назбіраных сродкаў».

### Бюджэтнікі

Цяпер да канкрэтных прафесій. Настаўнікі, дактары і іншыя бюджэтнікі традыцыйна складаюць большасць мясцовых саветаў. Колькі яны зарабляюць?

Пачнем з педагогаў. Шараговых настаўнікаў сярод кандыдатаў нямнога, прычым абодва — камуністы. Яны зараблялі па 5—6 мільёнаў. Дарэчы, такім жа даходам адзначылася першы сакратар райкама БРСМ **Алеся Громава**.

Дырэктараў школ набралася з дзясятак. Сярэдні заробак у іх складае 8 мільёнаў рублёў. У вышэйшай адукацыі плацяць іншыя грошы. Напрыклад, рэктар Медуніверсітэта **Анатоль Сікорскі** можа пахваліцца 18 мільёнамі штомесяц. А рэктар Універсітэта культуры **Юрый Бондар** — 23 мільёнамі.

**У Мінскі гарсавет не балатуецца ніводзін праваахоўнік.**

У цэлым даходы медыкаў вышэйшыя, чым у педагогаў. У дэпутаты ідзе дзясятак галоўных дактароў гарадскіх паліклінік. Сярэдні заробак у іх — 12,5 мільёна. У бальніцах больш. У **Жанны Казачонак** (11-я бальніца) — 20 мільёнаў.

Некалькі словаў і пра іншых бюджэтнікаў. Дырэктар Музкамедыі **Аляксандр Пятровіч** меў па 14 мільёнаў. Генеральны дырэктар холдынга «Мінск-Навіны» **Кацярына Дубінская** мела амаль 19 мільёнаў штомесяц! Для параўнання, намеснік генеральнага дырэктара звышпаспяховага «Амкадора» **Аляксандр Нахаенка** зарабляў 18 мільёнаў.

А генеральнай дырэктарцы датацыйнай «Белпошты» **Ірыне Саксонавай** штомесяц налічвалася па 25 мільёнаў.

І пра знакамітасцяў. Інтэрнэт-герою, галоўнаму рэдактару партыйнай газеты «Камуніст Беларусі» **Жану Содэлю** плацяць 1,5 мільёна.

На выбары ідуць і два вядомыя апазіцыйныя камуністы. Лідар «Справядлівага свету» **Сяргей Калякін** задэклараваў штомесячны заробак 12 мільёнаў рублёў (ён атрымлівае і пенсію), а ягоны намеснік **Валерый Ухналёў** — 7 мільёнаў рублёў.

Комік **Яўген Крыжаноўскі** з ЛДПБ зарэгістраваны як ІП-шнік. Гэта дазваляе яму штомесяц мець 30 мільёнаў рублёў.

### Крымінальнае мінулае

Новаўвядзенне гэтай выбарчай кампаніі — указванне ранейшых судзімасцяў кандыдатаў. Гэта нібыта мусіла адштурхнуць выбарцаў ад апазіцыянераў — спрэс «хуліганаў» і «арганізатараў масавых беспарадкаў».

Хто з раней асуджаных ідзе ў дэпутаты? Сярод апазіцыі — **Артур Фінькевіч** і **Дзмітрый Каспяровіч**.

Сябра ЛДПБ **Валерыя Кірыенкава**, які цяпер працуе ў ЖСК «Абаронец», судзілі за махлярства, незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць і нават раскраданне шляхам перавышэння службовых паўнамоцтваў. Другі ЛДПБ-шнік, кіроўца **Аляксандр Шэндрык**, двойчы быў асуджаны за ўхіленне ад утрымання дзяцей. Трэці сябар партыі, ІП-шнік **Мікалай Шаціла**, быў звязаны з незаконным абаротам наркотыкаў.

Праблемы з законам мелі і двое камуністаў. Супрацоўніца БНТУ **Казіміра Юройця** вінавацілі ў хуліганстве і супраціўленні работнікам міліцыі, а загадчыка склада «Еўраопта» **Альберта Ерафеенку** — у хуліганстве.

**Ягор Марціновіч**

## Лукашэнка пераехаў

Рабочы кабінет кіраўніка Беларусі цяпер знаходзіцца ў Палацы Незалежнасці. Ад Драздоў, дзе жыве Аляксандр Лукашэнка, да новага будынка на праспекце Пераможцаў ехаць усяго 3 км.

Інфармацыю пра пераезд «Камсамольскай праўдзе» пацвердзілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы. А вось адміністрацыя прэзідэнта засталася ў будынку на Маркса, 38.

Аляксандр Лукашэнка заяўляў пра пазабюджэтнае фінансаванне новай рэзідэнцыі. Але насамрэч з рэспубліканскага бюджэту на будаўніцтва выдзялялася больш за $130 мільёнаў, а яшчэ нейкія грошы пералічваў Мінгарвыканкам.

Палац Незалежнасці застаецца закрытым для наведвальнікаў.

**ЯМ**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Сцісла

### Сярэдні заробак — $556

Паводле дадзеных Белстата, у студзені сярэдні заробак да сплаты падаткаў скаціўся да 5,3 мільёна рублёў. За месяц работнікі згубілі па 530 тысяч рублёў. Зрэшты, студзеньскі заробак у краіне штогод ніжэйшы за снежаньскі.

### Чыжу загадалі дабудаваць «Кемпінскі» да мая

Гатэль «Кемпінскі», які будуецца каля цырка, мае быць здадзены ў эксплуатацыю да 1 мая 2014. Гэта вынікае з загаду Аляксандра Лукашэнкі. Забудоўшчык гатэля — кампанія «Эліт Эстэйт», адным з яе заснавальнікаў з'яўляецца «Трайпл» Юрыя Чыжа.

### За ўчынак, які «дыскрэдытуе званне»

Генерал-маёр міліцыі Іван Саўчыц звольнены з пасады начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама за правіны, што дыскрэдытуюць званне супрацоўніка органаў унутраных спраў.

**ЯМ**

# Бізнэсоўцы «пракурваюць» фірмы і кідаюць сем'і

**Спайсы і «маркі» забіваюць усё больш людзей.**

Яшчэ два-тры гады таму мала хто ведаў гэтыя спайсы. Гэтыя сумесі для палення свабодна прадаваліся. А сёння маем — дзве смерці за тыдзень, яшчэ адзін падлетак загінуў ад «маркі». І яшчэ дзясяткі зняверчаных лёсаў, пра што родныя не гавораць публічна. Статыстыка: два з трох злачынстваў з наркотыкамі звязаныя менавіта са спайсам. «З краіны-транзіцёра мы ператвараемся ў краіну-спажыўца», — пракаментаваў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч.

І вось новая трагедыя, зноў у Мінску. 24-гадовы хлопец памёр ад перадазіроўкі. Адпачывала кампанія. Адзін з прыяцеляў-праграмістаў прапанаваў купіць «марак» і расслабіцца. Замовілі праз інтэрнэт. А калі «закінуліся», завадатару стала кепска: у неадэкватным стане ён выскачыў на двор. Пакуль бегалі за ім і выклікалі «хуткую», у кватэры ад перадозу сканаў другі хлопец. Праграміста ж даставілі ў псіхбальніцу ў Навінкі.

Чаго не ведаюць людзі, якія падпадаюць на падманлівую рэкламу пра нібыта легальныя і бяспечныя наркотыкі?


Спайс: на выгляд — звычайная трава, насамрэч — моцны наркотык.

### Хутка прывыкаеш

Спайсы — гэта сінтэтычныя сумесі для палення. З выгляду — тая ж табака (трава), на якую нанесена псіхаактыўнае хімічнае рэчыва. Яно можа быць у дзясяткі разоў мацнейшым за каноплі альбо гераін. «Марка» — гэта кавалачак паперы, змочаны ў наркотыку. Калі спайсы кураць, то «маркі» кладуць пад язык. Што іх яднае — рэчыва, якое ў іх можа выкарыстоўвацца. Апошнім часам распаўсюджваецца MDPV (МетыленДыоксіПіравалерон).

Самае бяскрыўднае, што адбываецца са спажыўцамі спайсаў і «марак», — «пакаўбасіла» і адпусціла. Але для кагосьці нават першы раз заканчваецца трагічна. І калі ўдаецца пазбегнуць смерці, то гэта не азначае, што вы будзеце нармальна жыць далей.

«Слова «спайсы» мы ведалі раней, але хворых не бачылі. За мінулы год у аддзяленні было прыкладна каля 35 пацыентаў з чыстымі спайсамі — без іншых залежнасцяў. З іх 5—7 чалавек — 16- і 17-гадовыя. Але два гады таму са спайсамі ў нас увогуле нікога не было! — расказвае загадчык наркалагічнага аддзялення РНПЦ псіхічнага здароўя Уладзімір Іваноў. — Гэта страшны наркотык, бо хутка выклікае залежнасць — яна выпрацоўваецца прыкладна так, як і пры гераіне. За месяц эпізадычнага ўжывання можна атрымаць залежнасць на фізіялагічным узроўні. У мяне было некалькі пацыентаў сярод бізнэсоўцаў сярэдняй рукі, якія «пракурвалі» цэлыя фірмы, кідалі сем'і. Узнікаюць цяжкія псіхозы, якія дрэнна лечацца».

### Залежнасць на ўсё жыццё

Спажыўцы спайсаў і «марак» памыляюцца, калі думаюць, што лёгка могуць адмовіцца ад наркотыкаў. Яны перацэньваюць сваю сілу волі. «Любая хімічная і нават нехімічная (гульнявая ці камп'ютарная) залежнасць з біялагічнага пункту гледжання з'яўляецца невылечным станам. Мозг памятае задавальненне, якое атрымліваў ад ужывання рэчыва. Таму ў чалавека перыядычна ўзнікае больш-менш моцнае жаданне паўтарыць тыя адчуванні. І з гэтым нельга нічога зрабіць. Але калі чалавек хоча жыць па-іншаму, змяніць жыццё да лепшага, можа гэта зрабіць шляхам перавучвання і набыцця нейкіх новых форм паводзінаў, а таксама прытрымлівання так званай тэхнікі бяспекі», — адзначае Уладзімір Іваноў.

Але дапамагчы такім людзям можна, калі ў іх няма выяўленага парушэння псіхікі. Бо сумесі для палення прыводзяць да прыдуркаватасці: у людзей узнікае абыякавасць да жыцця, знікаюць сяброўскія сувязі, страчваюцца працоўныя навыкі. І для такіх людзей адзіны выхад — стварэнне спецыяльных прытулкаў, дзе яны маглі б пажыццёва знаходзіцца.

### Як заўважыць?

Спажыўцы спайсаў — як правіла, моладзь. Пачасціліся выпадкі, калі на іх падсаджваюцца і дзеці. Ці могуць бацькі вызначыць па паводзінах, што іх любімыя і найлепшыя ўжываюць наркотыкі? «Мяняюцца паводзіны. Дзеці пачынаюць адасабляцца, пазбягаюць бацькоў. Знікае інтарэс да вучобы і хобі. Ад дзяцей можа сыходзіць дзіўны пах. Пачынаюцца праблемы з памяццю, з уважлівасцю, з'яўляецца раздражнёнасць, парушэнне сну, зніжаецца апетыт. І ўзнікае патрэба ў грошах, вядома ж. «Полка» спайсу (на іх жаргоне — паўтрама) каштуе 100-120 тысяч рублёў», — заўважае Уладзімір Іваноў. І калі гэта ўсё-ткі здарылася, трэба звяртацца да спецыялістаў.

### Не даць забіцца

Як паказвае практыка, спайсы і «маркі» ўжываюць у кампаніях. Але калі аднаму з прыяцеляў ці прыяцелек «зрывае дах», іншыя губляюцца і не ведаюць, што рабіць. Ад эйфарыі, якая можа змяняцца паранояй, пад наркатой людзі робяць самыя неадэкватныя ўчынкі: брэшуць, поўзаюць, скачуць, крычаць, залазяць на дах... І самае страшнае, што яны нявечаць, а то і забіваюць самі сябе. У такіх выпадках трэба проста трымаць, а то і звязваць іх.

**Дзяржава сама не дасць рады**

«Многія пацыенты маюць патрэбу ў пераходным перыядзе — ад стацыянара да нармальнага жыцця. Ім патрэбна групавая падтрымка. З майго пункту гледжання, трэба ствараць бясплатныя групы самаўзаемадапамогі для спажыўцоў наркотыкаў. Гэта важная праца, якая не выконваецца і не падтрымліваецца дзяржавай. Фактычна адзінае грамадскае аб'яднанне, якое актыўна і шмат гадоў бясплатна дапамагае наркаманам, курыльшчыкам — «Абуджэнне», — знаходзіцца на мяжы знікнення.

Ва ўмовах, калі нас накрывае чарговы вал наркатызацыі, павінны быць падключаныя ўсе такія грамадскія аб'яднанні. Дзяржава сама не дасць рады, патрэбны ўдзел насельніцтва ў прафілактычных і рэабілітацыйных праграмах. А ў нас урад да сёння не прыняў нават палажэнне аб рэабілітацыйным цэнтры для наркалагічных хворых», — адзначыў Уладзімір Іваноў.

«Літаральна ўчора я размаўляў з чалавекам, які быў на мяжы перадазіроўкі — ён думаў, што ўжо памірае. Як ён расказваў, у яго было такое адчуванне, што кудысьці праваліваецца, мозг адключаецца, з'яўляецца думка, што ён памірае ў кайфе», — расказвае в.а. загадчыка наркалагічнага аддзялення Гарадскога клінічнага наркадыспансера Мінска Андрэй Абрамовіч. Перадазіроўка — крок да смерці. Калі своечасова не аказаць дапамогу, чалавек можа ўпасці ў кому. Знешне перадоз праяўляецца ў тузаніне рук, ног, на твары з'яўляюцца грымасы — «заўважна, што чалавеку кепска». І выхад толькі адзін — як хутчэй выклікаць медыкаў.

А тыя, каму пасля перадозу пашчасціла выйсці з комы, не ў стане самі адмовіцца ад наркотыкаў. «Пасля комы праводзіцца дэтаксікацыя, і пасля з ім працуюць на пераадольванне наймацнейшай псіхалагічнай залежнасці. Зняць ломку і адмену — гэта адно, а далейшае лячэнне — гэта ўжо справа псіхолага і псіхатэрапеўта», — кажа Андрэй Абрамовіч.

**Сяргей Макарэвіч**



## Сціcла

**Пільная студэнтка папярэдзіла «тэракт»**

26 лютага мінскае метро спынілі на тры гадзіны. Студэнтка паведаміла ахове падземкі, што яе ўвагу прыцягнуў тэкст смс-паведамлення аднаго з пасажыраў: той нібыта пісаў пра планы ўзарваць выбухоўку. Давялося праводзіць эвакуацыю. Бомбу не знайшлі, але затрымалі таго самага падазронага пасажыра. Гэта 35-гадовы ўраджэнец Казахстана, які жыве на Міншчыне. У дачыненні да яго заведзена крымінальная справа за «загадзя ілжывае паведамленне пра небяспеку».

**«Узарву гэты банк»**

28 лютага супрацоўніца сталічнага банка знайшла каля касы запіску з пагрозай узарваць будынак. «Я ўзарву гэты банк! Заўтра, не жартую». Бомбы не аказалася. Запіску ж пакінулі два хлопцы, 1993 і 1996 г.н. Свой учынак патлумачылі тым, што правяралі прафесіяналізм міліцыі. Ім пагражае рэальны тэрмін.

**Пад Оршай зарэзалі таксіста**

Цела мужчыны з мноствамі нажавых ранаў знайшлі побач з дарогай Орша—Дуброўна ўначы 1 сакавіка. Непадалёку знаходзіўся і аўтамабіль таксіста. Заведзена крымінальная справа за забойства з асаблівай жорсткасцю, за што прадугледжаны нават расстрэл.

**Не налілі**

П'яны з вёскі Ізбішча Лагойскага раёна так моцна хацеў выпіць, што падняў руку на брата. Узяў яго ў закладнікі і пагражаў узарваць газавы балон у пад'ездзе дома, калі яму не прывязуць гарэлкі. А сваё патрабаванне выставіў выратавальнікам, якія з'явіліся па выкліку. Затрыманы, заведзена крымінальная справа.

**«Хуткая дапамога» разбілася ў Жлобіне**

Кіроўца «Мазды» не саступіў дарогу на скрыжаванні «хуткай», якая ехала з маячкамі. «Фальксваген Транспарцёр» з медыкамі ў выніку сутыкнуўся з легкавіком і перакуліўся. Дзвюх фельчарак шпіталізавалі. А пацыент, якога спяшаліся давезці ў бальніцу, праз чатыры гадзіны пасля аварыі сканаў, так і не апрытомеўшы.

**КМ**

# Памёр Рыгор Барадулін

**Паэта не стала 2 сакавіка, яму было 79 гадоў.**



Рыгор Барадулін нарадзіўся 24 лютага 1935 года на Ушаччыне. Барадулін прыйшоў у літаратуру ў сярэдзіне 1950-х гадоў на хвалі «адлігі». У БДУ ён вучыўся у адзін час з Міхасём Стральцовым, Янкам Сіпаковым, Генадзем Бураўкіным, Васілём Зуёнкам. Крытыкі адносяць іх да філалагічнага пакалення. У 1992 ён стаў апошнім творцам, які атрымаў званне народнага паэта Беларусі.

Барадулін меў доўгі паэтычны век. Яго першая кніга, «Маладзік над стэпам», выйшла ў 1959. Апошняя, «Вушацкі словазбор Рыгора Барадуліна», — летась. Усяго іх болей за семдзесят. Але ва ўсіх гэтых зборніках аўтар здолеў не паўтарыцца. «У жыцці і ў творчасці ён мог быць розным — вясёлым, драматычным, трагічным, дзёрзкім, — кажа доктар філалагічных навук Міхась Тычына. — За тысячу гадоў у гісторыі сусветнай літаратуры набярэцца толькі некалькі дзясяткаў такіх творцаў».

Паэзіі Барадуліна ўласціва выключнае багацце мовы. Як кажа Тычына, творчасць Рыгора Іванавіча больш чым у каго залежала ад беларускага слова. Ён стварыў мноства наватвораў. «Яго талент быў выключны, — заўважае Тычына. — Барадулін мог, гледзячы у вочы, прыдумаць чатырохрадкоўе».

Паэт быў апошнім з плеяды класікаў, да якой належалі таксама Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч — ягоныя сябры. «Барадулін прыйшоў, калі беларускае слова было багатае на таленты і чытачоў. Таму пакаленню, якое цяпер называюць шасцідзясятнікамі, пашанцавала на аўтараў і чытачоў. А потым ледзь не ў адно імгненне ўсё пачало знікаць, — разважае Тычына. — Барадулін застаўся адзін з Яго вялікасцю Словам. Але выбраўся з гэтага закутка з дапамогай сяброў. Калі беларусы будуць гадаваць дзяцей як беларусаў, слова Барадуліна будзе вельмі шмат значыць для іх».

«За апошнія дні шмат казалі, як мы збяднелі, асірацелі і каго страцілі, — кажа Міхась Тычына. — Але мне здаецца, што, чытаючы Барадуліна, мы памудрэлі і пасвятлелі душой. Бо слова Рыгора Іванавіча — сонца беларускае».

**Максім Кавальскі**

# Рыгор Барадулін. **Правілы жыцця**

• Паняцця адпачынку ў мяне няма. Я адпачываю, калі працую. Праца для мяне — самы лепшы адпачынак. Калі не працую, тады мне дрэнна — і галава баліць, і ўсё не так, і ўжо канец свету настае. А чым больш працую, тым больш адпачываю.

• Мову трэба адчуваць, а не проста ведаць. Канечне, самае лепшае — нарадзіцца з ёю, а пасля ўжо набываць столькі моў, колькі хочаш, бо колькі ведаеш моў — столькі разоў ты чалавек. Аднак роднай можа быць толькі адна мова.

• З цягам часу забываюцца твары, імёны, і застаецца толькі агульнае адчуванне, што ты жыў. Дый яшчэ тое, што ва ўсе часы побач з табой былі добрыя людзі.

• У маладосці ніколі не задумваешся пра ўзрост, падаецца, што яшчэ шмат часу наперадзе, што ўсё паспееш. А цяпер як паглядзіш, дык падаецца, што ў асноўным усё не тое рабіў у гэтым жыцці — шмат рабіў лішняга, пустога, неабавязковага.

• Самае страшнае — застаецца адnaму... Мне заўсёды хацелася вялікай сям'і, бо без сям'і мы — нічога...

• Усё, канечне, ідзе да знішчэння: знішчаюцца школкі беларускія, знішчаюцца беларускія газеты, часопісы і выдавецтвы, і ўсё ідзе тут на расійскамоўны капыл

• Галоўная загадка беларусаў палягае ў тым, што іх быццам бы знішчаюць, а яны ўсё роўна не даюць абкрасці душу. Часам нават здаецца, што лепей было б, каб беларускую мову наогул забаранілі — тады б цікавасць да яе была яшчэ большая.

• Усё жыццё, яшчэ са школы, мне здавалася, што літаральна ўсе лепшыя за мяне, нават пішуць лепш за мяне. Я сапраўды так лічыў і дасюль лічу. Я не гуляю тут у сціпласць — кожнага разу мне здавалася, што вось іншыя здольныя, а я — не.

• Часам сапраўды падумаеш: а ці варта яшчэ пісаць у 80? Але не пісаць я не магу. Праўда, нешта «манументальнае» даўно ўжо не з'яўляецца — хочацца толькі настраёвых іскрынак, ну, і каб гэта было натуральна.

• На ноч малюся. Прычым не тое, што цяпер пачаў маліцца, калі гэта стала модным, — я ўсё жыццё маліўся, мама прывучыла мяне да гэтага.

• Фізічная старасць сапраўды страшная, але самае галоўнае, каб душа заставалася маладой — чалавек датуль жыве, пакуль яго душа маладая, а ўжо калі старэе і душа, тады ніякае цела не ўратуе.

• Увесь час думаю і хачу, каб мяне пахавалі каля мамы. Я штодзённа прыгадваю кожную сцежку, памятаю яшчэ паўнаводнай нашую рэчку і тыя месцы, якіх даўно ўжо няма

• Я жыву ў імя ўсяго беларускага, жыву дзеля служэння беларускаму слову.Гавару гэта без высакамоўнасці: я рыхтаваў сябе не для служэння беларускай паэзіі — для служэння беларускаму слову.

• Чалавеку, як цяпер разумею, трэба абсалютна мала: душэўны спакой і раўнавага. Больш нічога. Проста каб было нешта перакусіць дый страха і спакойнае неба над галавой, спакойнае — як космас, як жыццё.

• У маленстве, калі было зусім гола, хацелася нейкія чаравікі і каб яны не ціклі, каб штаны былі не падраныя, каб кашуля цэлая была.

• Я ўжо перахварэў на гэтую хваробу, калі хацелася, каб тваё прозвішча было на вокладках кніжак.

• Мама для мяне — гэта канкрэтна ўвасоблены свет; канкрэтна ўвасобленае жыццё — гэта мама. У маме ўвесь свет, усё жыццё, у мане ўвесь я.

• Біблія разлітая ў кожным чалавеку, і любы нармальны чалавек усё адно глядзіць на свет вачамі Бібліі, таму што яна — ад Бога.

• Раней у мяне былі Бог, мама і Быкаў. Цяпер застаўся толькі Бог.

• Калі паміраеш — не адчуваеш смерці.

**Падрыхтавала Вольга Гарапучык**

## Спачуванні праз nn.by

Гора, балючае і пякучае.
Велізарная, непапраўная страта для ўсіх беларусаў і ўсяе Беларусі.
Зямелька пухам і вечны супакой, слынны наш Паэт.

**Кастусь Севярынец**

Божа, які боль, якая страта. Не веру... Дзядзька Рыгор, родны... Памёр Рыгор Барадулін. Чорны, чорны, чорны дзень... Мілы Божанька, прымі светлую душу найшчырага беларуса, геніяльнага паэта, настаўніка, чалавека, што любіў жыццё... Плача ўся Беларусь. Сардэчныя спачуванні крэўным і сябрам... І чытачам...

**Валярына Кустава**

Светлая, вечная памяць!

**Віталь Еўмянькоў**

Царства Нябеснае. Вечны спачын.

**Мікіта Волкаў**

Спачуванні ўсім родным і ўсёй свядомай Беларусі. Святы быў чалавек! Няма слоў...

**Вольга Цярэшчанка, Гомель**

Шчыра спачуваю ўсёй Беларусі!

**Сяржук Бахун**

Вечная памяць.
Дзякуй, дзядзьку, за тваё жыццё на гэтай зямлі.

**Бацылеў Юры, Ушачы**

Васіль Быкаў і Валянцін Тарас пражылі па 79 гадоў і тры дні. Тры дні таму я падумаў, што вось шчасце: Рыгору Барадуліну Бог дае пражыць даўжэй. На жаль, толькі на тры дні. Не спраўдзілася мара дзядзькі Рыгора: «Калі не жыць, дык хоць памерці ў беларускай Беларусі».
Памёр ён, безумоўна, моцна перажываючы за Украіну, якую вельмі любіў. Не перабольшу, калі скажу, што і яго трэба залічыць да нябеснай сотні герояў Майдану.
А ў паэзіі яго папросту замяніць немагчыма.
Атрымаў электронны ліст ад прэзідэнта Польскага ПЭН-Цэнтра Адама Паморскага, які, сярод іншага, таксама перакладаў Барадуліна. Ён перадае нам свае «самыя глыбокія спачуванні».

**Лявон Баршчэўскі**

Дзякуй за навуку, як трэба жыць, кахаць і паважаць род чалавечы! Дзякуй за твае працы, за тваю шчырасць! Развітваемся з табой у вялікім жалі і скрусе, даражэнькі дзядзечка Рыгор...

**Алесь Таўстыка**

Дзядзька Рыгор — з тых, каго ніхто не заменіць! Зямля яму пухам!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Светлага нябеснага жыцця спадару Рыгору!!! Вялікая страта вялікага чалавека.

**Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч**

Бывай, дзядзька Рыгор, дзякуй Табе за ўсё. Няхай там Табе будзе лепш!
Спачуванні ўсім родным і ўсёй свядомай Беларусі.
Светлая памяць.

**Міхась Лебедзь**

## Найлепшыя вершы Рыгора Барадуліна

***

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці.

Не забыць, як падвялы аер
На памытай падлозе пахне,
Як у студню цыбаты асвер
Запускае руку да пахі.

Не забыць сцежкі той, што цябе
На дарогу выводзіла з дому,
Што ў хаце там быў рубель
У цане і па курсу старому.

Не забыць, як марозам злым
Клямка пальцы пячэ балюча
І адкуль на стале тваім
Бохан свежага хлеба пахучы.

Помніць свой на іржышчы цень,
Не забыць, як завуць суседа,
Не забыць, як пяе пад дзень
За вясёлым сталом бяседа.

Помніць кожнай масніцы спеў,
Кожны кут у прыціхлай хаце.
Лёсу дзякаваць, што паспеў
Ты пачуць блаславенне маці.

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою ты стаў чысцей
І не страціў святое штосьці.

***

Ад
«не трэба, не трэба»
Да
«святло патушы»,
Як да сёмага неба,
Як да шчырай душы,
Як ад бліску маланкі
Да абложных грымот...
З вераснёвай палянкі
Хмеліць вераснем мёд.
Ліўнем стомленым стыну
На захмарнай градзе...
Прага
смаглай пустыні,
Спёка
спелых грудзей.
Толькі змроку густога
Захмялелы мурог,
Толькі
светлая стома,
Толькі
месячка рог...
Ціха досвітак глянуў —
Стой,
імгненне,
замры!
Не спяшайся,
бяглянка,
Мы адны на зямлі.
Можа, дзень пачакае,
Маладзік, пасвяці...
Ноч бывае такая
Толькі раз у жыцці...
Знелюбелы, нямілы
Дзень з-за мора ўстае.
Мне б вякоў не хапіла
Слухаць вочы твае...

**Матылёк**

*Б'ецца, ўецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*
Максім Багдановіч

Лілею
млявы
плёс

люляе,
З-пад злежаных
аблок
здалёк
Ляціць віхлясты і бялявы,
Пялёстак лёгкі —
матылёк.

Ён кліча у блакіт лілею,
Каб не любіла
больш
да слёз
Бліскучы ад лускі і глею,
Самлелы,
абмялелы
плёс,

Дзе лашчыць
цёплай ласкай
хваля
Лінёў —
злянелых цельпукоў,
Паблісквае
няблізка
далеч,
Дзе ў іле
не злічыць малькоў,
Дзе глыб
угнеўнена шыпела,
Калі
на хвалі
лівень
лёг...
Засумавалы,
белы,
белы
Ляціць удалеч
матылёк...

# Першы настаўнік

У 1951 годзе за дапамогу антысавецкім партызанам у Вульцы Сыманаўскай было арыштавана 18, а ў суседніх Сыманавічах — 11 чалавек. Здаў іх настаўнік. Піша **Віктар Губарэвіч**.



Аднойчы ранкам, як звычайна, паснедаўшы, я накіраваўся на працу, на свой родны завод. На ліфце не езджу. Пакуль ногі трымаюць, трэба імі карыстацца як мага болей. Хадзьба — гэта ж жыццё. Таму я заўсёды збягаў па лесвіцы як школьнік — з прыскокам.

І раптам на пляцоўцы другога паверха бачу: стаіць пры расчыненых дзвярах сваёй кватэры бабулька.

Яны з дзедам пасяліліся ў гэтай двухпакаёўцы, хоць і дня не працавалі на заводзе. Гэтых старых ніхто з нашых не ведаў. І яны ніколі ні з кім не заводзілі знаёмства, не віталіся, на вуліцу выходзілі толькі разам, глядзелі на ўсіх неяк насцярожана, ваўкавата.

Падобна было да таго, што бабка ўжо крыху не пры сваім розуме.

— Иди сюда. Иди сюда! Посади его! — паказвае рукой на расчыненыя дзверы. І, каб пераканаць, дадае: — Я тебе денег дам.

Бабка вядзе мяне ў пакой, паказвае на ложак і кажа:

— Сделай, чтоб он сидел. Посади его!

У ложку ляжаў мёртвы стары. Як мне падалося са стану яго твару і смуроду ў памяшканні, памёр ён ужо даўно, 3-4 дні таму. Я падышоў бліжэй да ложка і тут заўважыў, што з-пад падушкі тырчыць рукаятка пісталета. Не, думаю, нічога чапаць тут не трэба.

— Зараз, — кажу я бабцы, — я збегаю па дапамогу.

Пабег я да сябе, патэлефанаваў у «хуткую»...

Праз якіясьці пару дзён у абласной газеце, у адзін дзень з важным паведамленнем — таварышу Леаніду Ільічу Брэжневу ўручылі Залаты значок за 50 гадоў знаходжання ў КПСС — на апошняй старонцы я ўбачыў вялікі некралог, падпісаны высокім абласным чынавенствам. Памёр пачэсны чэкіст С-кі Васіль Нічыпаравіч.

«Гэта ж трэба! — падумаў я. — Прозвішча і імя такое ж, якія былі ў майго першага настаўніка».

І я прыпомніў часы майго вясковага пасляваеннага дзяцінства. Напрыканцы 40-х гадоў у нашых палескіх мясцінах было яшчэ вельмі неспакойна. З вайны засталося шмат зброі. Людзі трымалі гэтую зброю ў схованках, няглядзячы на катэгарычны загад уладаў здаць яе. Многім не падабалася ні савецкае вызваленне іх ад панскай Польшчы ў 1939 годзе, ні нямецкае вызваленне ад савецкага ў 1941 годзе. Яны баяліся безуладдзя і хацелі быць абароненымі.

Пры першых саветах, як цяпер кажуць, арыштавалі і вывезлі некуды з вёскі сем'і самых паважаных, працавітых і заможных сялян. А да ўлады паставілі гультаёў і п'яніц. Памятаю яшчэ аднаго з іх. Пасля вайны ён быў прызначаны брыгадзірам. Мая маці казала, што ў яго ніколі не было не толькі каня, але нават і воза.

З прыходам немцаў пакрыўджаныя савецкай уладай ці іхняя радня пачалі помсціць, выдаваць гэтае савецкае «начальства» паліцыі. Частку з іх пастралялі, а частка сышла ў лясы. І пры немцах, і асабліва з іх адыходам гэтыя лясныя «змагары» помсцілі ў сваю чаргу тым, хто іх выдаваў. Усё гэта вельмі нагадвала грамадзянскую вайну.

Але ў нашай вёсцы ў канцы саракавых — на пачатку пяцідзясятых ужо было спакойна. Ні арганізаванай барацьбы супраць савецкай улады, ні змагароўадзіночак.

У 1949 годзе ў нас быў створаны калгас. Большасць калектывізавацца не хацела. Людзі не ведалі, што гэта такое — калектыўная праца, бо ведалі, што і бацькі, і дзяды, і яны самі заўжды працавалі на сябе і яшчэ на пана і на ўладу. Але жылі заўжды са сваёй зямліцы. Людзей прымусам заганялі ў калгас. Забралі большасць скаціны, усіх коней з вазамі. Працавалі людзі ў калгасе дрэнна. А калі атрымалі пасля першага года працы зерне як аплату, то таго зерня было столькі, што і курэй пракарміць не хапала. Пасля другога працоўнага года і да 60-х, калі пагналі па трубаправодах на Захад нафту, у калгасе за працу наогул нічога не плацілі. Жылі сем'і тым, што пасля працоўнага дня на калгасных палетках і кароўніках завіхаліся яшчэ на сваіх 30 сотках, дзе ўраджаі былі значна большыя, чым у калгасе. І кароўкі ўласныя давалі малако. А калгасныя ад голаду не маглі стаяць на нагах, іх падвязвалі да бэлек і крокваў вяроўкамі. Паблізу калгасных кароўнікаў напрыканцы зімы я стараўся не хадзіць, бо адтуль звычайна чуўся жудасны і роспачны роў галоднай скаціны.

А не хадзіць на працу ў калгас было нельга, бо ў такім выпадку, згодна з савецкім законам, прысядзібны ўчастак, як тады казалі, «абразалі па вуглы хаты», да 5 сотак. З яго пракарміць сям'ю было немагчыма. Так і жылі з таго, што давалі прысядзібныя 30 сотак, і з таго, што ўдавалася ўкрасці ў калгасе.

У 1950 годзе я пайшоў у першы клас пачатковай сельскай школы. Мы навучаліся ў старэнькай хаціне, дзе бабулька-гаспадыня жыла ў куханьцы, а ў пакойчыку стаялі школьныя парты, столік для настаўніка ды школьная дошка. Тую прыгожую школу, якую вяскоўцы пабудавалі ў польскія часы, партызаны спалілі.

Новы настаўнік быў немаладых лысаваты дзядзька гадоў пад пяцьдзясят, рыжавусы і вельмівельмі строгі. Дзяцей караў. Біў лінейкай па руках, па галовах. Некаторыя бацькі на яго нават скардзіліся ў сельсавет. Як я цяпер разумею, магчыма, ён спецыяльна правакаваў людзей на выказванне незадаволенасці.

Мяне, выдатніка, аднойчы за нейкую дробязь паставіў у кут на калені. А перад тым, як звычайна ў такіх выпадках, запусціў правую руку ў кішэню і высыпаў на месца майго пакарання жменю грэчкі. Потым няспешна закасаў калашыны маіх нагавіцаў вышэй за калені. Худым дзіцячым каленям стаяць на колкім зерні было балюча. Я плакаў. Больш ад крыўды, чым ад болю.

Скончылі мы першы клас, і настаўніка нашага перавялі ў нейкае іншае месца, бо ў нашай вёсцы яго больш ніколі не бачылі. Але ў мяне і цяпер ёсць фотаздымак нашага першага класа, на якім я пачэсна сяджу побач з маім Першым Настаўнікам.

Прайшло шмат часу. Як і мае браты і сёстры, я даўно з'ехаў з галоднай калгаснай вёскі. Мой бацька адправіў сыноў у тэхнікумы, каб атрымалі надзейную прафесію, а дочкі паехалі па будоўлях вялікай хіміі. І хоць існаванне ў тэхнікумаўскім інтэрнаце было напаўгалоднае, а навучанне — напружаным, гэты час сталення быў цікавым і шчаслівым.

Прайшло шмат часу. Пасля тэхнікума я працаваў па размеркаванні на Крайняй Поўначы. Потым адбываў тэрміновую ваенную службу на флоце. А затым, у 60-70-х гадах, я, як і ўсе мае браты і сёстры, вярнуўся ў Беларусь, на роднае Палессе. Жыў цяпер у вялікім горадзе. Працаваў на заводзе і пра часіны вясковага дзяцінства ўспамінаў рэдка.

І вось гэты некралог у газеце прымусіў мяне ўспомніць тыя пасляваенныя гады. Я жахнуўся. Толькі цяпер я пазнаў па фотаздымку ў некралогу, што гэты маўклівы сусед з другога паверха і быў маім першым настаўнікам. «Дык вось яно што!» — стрэльнула думка. Дык вось кім быў мой Першы Настаўнік!

І раптоўна зразумеў: гэта яго брудных рук была справа, калі ў год яго настаўніцтва ў вёсцы арыштавалі трох маладых дзяўчат. Адной з іх споўнілася ўсяго васямнаццаць.

Усіх засудзілі на 25 гадоў пазбаўлення волі. Усяго ў сяле тады арыштавалі 18 чалавек.

Некаторых расстралялі, іншыя атрымалі ад 7 да 25 гадоў. Праз некалькі гадоў, пасля смерці Сталіна, іх усіх рэабілітавалі, але дамоў вярнулася толькі адна з іх. Лёс астатніх мне невядомы.

У пасляваенныя гады савецкая ўлада засылала ў наш край агентаў КДБ пад выглядам настаўнікаў, працаўнікоў культуры, крамароў, нават бацюшак, і яны непрыкметна тварылі тут свае чорныя справы. Яны выконвалі заданні па пастаўцы людзей у ГУЛАГ. Трэба было паставіць людзей на будоўлі савецкага ваеннапрамысловага комплексу. Трэба было так узброіць краіну, каб увесь свет нас баяўся. Плаціць вялікія грошы, каб людзі пайшлі на гэтую працу ў вельмі цяжкіх умовах добраахвотна, не маглі, бо грошай у казне не было. Таму патрэбных людзей абвінавачвалі, пазбаўлялі волі і адпраўлялі ў ГУЛАГ. І вось тыя пачвары, якія ўсё гэта ў маіх родных мясцінах тварылі, аказваецца, засталіся ў гісторыі Пачэснымі Дзеячамі. І колькі іх, непазнаных, нявыкрытых, не асуджаных за злачынствы, жыло, а можа, і цяпер жыве паміж намі? Колькі невінаватых людзей пасадзіў за сваё жыццё гэты чэкіст?

І вось такая яго смерць, з пісталетам пад падушкай... І гучаць у вушах словы яго старой:

— Сделай, чтоб он сидел. Посади его!

**Сярод арыштаваных былі**

(прыводзяцца або прозвішчы, або мясцовыя «прозвіскі», гэта значыць мянушкі, па памяці відавочцаў)

**Калюціч** (прозвіска Балахтаёва) Марыя (Калюціча Нічыпара, мужа Марыі, не судзілі, яго забілі)

Іх сын **Калюціч** Віктар Нічыпаравіч

**Снітка** Васіль

**Снітка** (Сніткова) Мар'я

**Снітка** (Сніткова) Анюта

**Снітка** (Сніткова) Насця

**Снітка** (Сніткова) Ніна

**Брыч** (прозвіска Котэль), ён і жонка

**Чапко**, з жонкай і дзве дачкі

**Сакалоўскі** (-ая), ён і жонка (прозвіска Грыць — актыўны ўдзельнік падзей, некуды з'ехаў па вызваленні)

**Елец** (прозвіска Стракова) Прузына

**Сахашчык** (прозвіска Кундылёва) Савета

**Сахашчык** (Кундылёва) Алэня

**Воўк** (Актыўны ўдзельнік падзей, некуды з'ехаў. Яго вызвалілі ў 1956 годзе, але не дазволілі вярнуцца ў Беларусь. Ён пасяліўся ў Стаўраполлі і забраў туды ўсю сям'ю.)

**У кнізе «Памяць. Драгічынскі раён» у спісе рэпрэсаваных і рэабілітаваных узгадваюцца толькі:**

**Сакалоўская** Вольга Васільеўна, 1932 г.н., засуджана 3 лютага 1951 г. на 25 гадоў турмы. Вызвалена 17 мая 1954 г. Рэабілітавана 22 чэрвеня 1977 г.

**Снітко** Наста Васільеўна, 1927 г.н., засуджана 3 лютага 1951 г. на 7 гадоў працоўных лагераў. Вызвалена 26 мая 1954 г. Рэабілітавана 22 чэрвеня 1977 г.

**Лясюк** Ганна Васільеўна, 1922 г.н., засуджана 3 лютага 1951 г. Вызвалена 13 мая 1954 г. Рэабілітавана 22 чэрвеня 1977 г.

**Снітко** Ніна Васільеўна, 1932 г.н., засуджана 3 лютага 1951 г. на 25 гадоў турмы. Вызвалена ў 1954 г. Рэабілітавана 22 чэрвеня 1977 г.

**Брыч** Аляксандр Паўлавіч, 1904 г.н., засуджаны 3 лютага 1951 г. на 25 гадоў турмы. Вызвалены 26 красавіка 1956 г. Рэабілітаваны 22 чэрвеня 1977 г

**Кананчук** Васіль Анупрыявіч, 1906 г.н., засуджаны 3 лютага 1951 г. на 25 гадоў турмы. Вызвалены 15 жніўня 1956 г. Рэабілітаваны 22 чэрвеня 1977 г.



**Віктар Губарэвіч**

Ураджэнец вёскі Вулька Сыманаўская Драгічынскага раёна. Жыве ў Брэсце.

Дзядзька Юрыя Губарэвіча, намесніка старшыні Руху «За Свабоду», і Ігара Губарэвіча, актывіста Беларускай грэкакаталіцкай царквы.

Гэтае эсэ апавядае пра рэальны эпізод. У 1951 годзе за дапамогу антысавецкім партызанам у Вульцы Сыманаўскай было арыштавана 18, а ў суседніх Сыманавічах — 11 чалавек. Віна гэтых людзей заключалася ў тым, што яны пускалі партызанаў начаў.

# Мінск два

Анка Упала. Апавяданне.

У аэрапорце «Мінск-2» мы з Верай чакаем самалёт, п'ём каву ў пляме электрычнага святла над нашым столікам. Над сусветам зіма і чорна. Людзі глядзяць у цемру праз шкляныя сцены і пазяхаюць. Па той бок іх дыханне крышталізуецца.

Вера засоўвае нос у папяровы кубак. Я кажу, што яна падобная да матылька з хабатком.

А чацвёртай раніцы разам з намі на борт садзяцца Ядзя Панлаўская і Аляксандр Цікановіч, жонка і муж, музычны дуэт, папулярны за савецкім часам. Аднойчы мне даслалі партрэт Ядзі, намаляваны дзіцячай рукой — пазнавальныя прычоска і акуляры. Я працавала ў часопісе і праводзіла конкурс для падлеткаў — ім трэба было намаляваць вядомую асобу, якую яны мараць сустрэць. Гэты конкурс я прыдумала ад беднасці, бо фота зорак для часопіса не было адкуль узяць. Так я атрымала партрэт Ядзі Панлаўскай. Я тады дзівілася, што яе ведаюць дзеці. Ядзя Панлаўская — гэта маё маленства. Выявілася, што ад майго маленства нічога не змянілася, што яно ў нас аднолькавае праз дванаццаць гадоў. Ядзя Панлаўская была ў мяне і ёсць у дзяцей сёння. Зрэшты, само беларускае паветра ўжо вельмі даўно застылае. Калі яго патрэсці, як шкляную цацку з хаткай і елачкамі, узнімецца заусёдны снег і будзе кружыцца буйнымі белымі камякамі.

У самалёце мы з Верай глядзім у ілюмінатар, па чарзе мяняемся: спачатку ў процьму глядзіць Вера, потым я.

Памятаю, як я ляцела ўпершыню. Мы селі ў самалёт разам з музыкам Георгіем, у якім жывуць *унутраныя лісяняты*. Для лісянят ён піша песні, і яны спяваюць іх хорам танюткімі галасамі. Авіякампанія Air Baltic пасадзіла нас тады на свой найменшы самалёт з птушынай анатоміяй. Такая анатомія ва ўсіх іхніх самалётаў, настолькі жывёльная, што няёмка заглядаць ім пад хвост. У Рызе на аэрадроме яны сядзяць радком, павярнуўшыся да пасажыраў дупкамі рознага дыяметра.

Я тлумачыла Георгію прынцып дзеяння нашага самалёта: спачатку ён проста ідзе па лётнай дарожцы, потым набірае хуткасць і бяжыць, нарэшце падціскае лапы да жывата — і мы ляцім. У палёце самалёт можа пачухаць пузік, і тады нас злёгку трасе.



**Анка Упала**

Сапраўднае імя Алена Казлова. Нарадзілася ў 1981 у Магілёве. Пісьменніца. Аўтар кнігі «Дрэва энталіпт». Жыве ў Мінску.

**У палёце самалёт можа пачухаць пузік, і тады нас злёгку трасе**



Падчас узлёту я звычайна пачуваюся нядобра — у жываце і галаве робіцца суспензія, трэба памаўчаць, пакуль не вырулім гарызантальна і галава зноў не адасобіцца ад жывата.

Я гляджу ў ілюмінатар на трывожныя хмары ўнізе, паміж якімі — зямля, утыканая агеньчыкамі. За ілюмінатарам чуецца нутраны спеў лісянят. «А ў маёй лісанькі вочы як зорачкі...»

Вера слухае музыку праз навушнікі, яна любіць падарожнічаць адна і рада, што я заняла сябе аблокамі.

Калі я бачу самалёт у начных хмарах з зямлі, напрыклад, ідучы асветленым праспектам каля кавярні «Валошкі», мяне часта прабірае страх. Па скуры бяжыць адчуванне, як у небе халодна, самотна, неспакойна і няўтульна пад шкарлупінай, а ў «Валошках» гарачую салянку падаюць. Але ў небе я не баюся — тут пачуваешся нібыта ў пакоі сядзіш, асабліва калі не глядзець у акно.

Праз праход насупраць сядзяць муж і жонка з Расіі. Жонка гартае часопіс на планшэце. Яна разглядае карцінкі, на якіх — гадзіннікі, упрыгожаныя брыльянтамі. Жонка спраўджвае ў мужа, колькі можа каштаваць гадзіннік з такой колькасцю і такой велічынёй брыльянтаў.

«Тыщ двадцать пять», — адказвае муж і тлумачыць розніцу цэнаў і памераў брыльянтаў вось у гэтым гадзінніку і ў тых завушніцах, якія яна мае дома. Па тым, як жыва яны абмяркоўваюць гадзіннікі, брыльянты і цэны, заўважна, што тэма іх напраўду кранае. Мяне брыльянты не цікавяць, але я не снабірую тэмы. Усе тэмы раўнавартасныя: і тэма аблокаў, і тэма цэнаў на брыльянтавыя гадзіннікі ў далярах. Але гэтая пара мне ўсё ж не падабаецца. Калі перад узлётам сцюардэса прасіла ўсіх выключыць электронныя прылады, жонка бывалым хамяком шапнула мужу, што нічога выключаць не будзе. Сцюардэсе, якая правярала, ці ўсе выканалі просьбу, давялося пастаяць каля дамы, пакуль тая ўсё ж выключыла планшэт. Зрэшты, яна зноў уключыла яго адразу ж, як адышла сцюардэса.

Вера кажа, што ёй падабаецца твар сцюардэсы, і прыязна глядзіць на яе. Твар для нашых краёў звычайны. Такі, як у мяне, як у Веры, як у паловы маёй фрэнд-стужкі ў Фэйсбуку. Тым, відаць, ён і падабаецца. Прыемна бачыць знаёмае і роднае, калі вісіш на вышыні і невядома, чым усё скончыцца. Сцюардэсу завуць Цэцылія, так на ёй напісана.

Я засынаю. Прачынаюся ад паху курынага кары — нехта на самоце абедае ў бізнэс-класе.

Мы перакусваем скрынькамі, у кожнай — сухаваты сэндвіч з белым хлебам і вяндлінай і абрубак марынаванага агурка. П'ём таматны сок. Вера збірае крошкі і сыпле іх у латок ад сэндвіча. Выціраемся сурвэткамі. Прыбіраем раскладныя столікі.

У салоне даволі халодна, таму Вера накідае на сябе паліто. Потым яна затыкае вушы навушнікамі і ўключае рыдар. Я думаю, што мне рабіць.

Заплюшчваю вочы і сяджу адна, адчуваю самалёт скурай, у яго мерзне абшыўка, лапы і кончыкі крылаў, так доўга сяджу, што, здаецца, зноў засынаю.

І раптам уздрыгваю ад адчування, што правальваюся некуды, што нехта мяне штурхануў. Так бывае ў паўсне.

Расплюшчваю вочы — мы ўсё яшчэ ціха ляцім, але за акном буйнымі белымі камякамі закружыўся снег. Вера варушыцца. Я гляджу на яе паліто ў фіялетавую клетку і бачу, як Верына галава павολі ўбіраецца ў каўнер, але яна не заўважае гэтага, працягвае чытаць кнігу. Яе рукі таксама ўцягваюцца ў рукавы, пальцы больш не могуць трымаць рыдар, і ён падае на падлогу. Вера ўжо ўся знікла ў паліто. Яно яшчэ трохі варушыцца клеткамі, вуркоча і пакасвае аб'ём, але потым аціхае і ляжыць на крэсле проста вопраткай, якую нехта пакінуў. Яго гузікі не глядзяць на мяне, а дачыняюцца са столяй.

Я ўздыхаю, адварочваюся і гляджу ў ілюмінатар. Мы ўжо зніжаемся і хутка будзем дома, уя мне зноў суспензія ад несумяшчальных часціц. Я дастаю фотаапарат і раблю некалькі кадраў. Мая прага здымаць мацнейшая за жывот і галаву разам узятыя.

Кідаю погляд на суседняе крэсла: Верына паліто адпачывае ўжо лагоднае. Думаю, яно асатанела ад залішняй увагі. Зашмат яго апраналі і здымалі, зашпільвалі і расшпільвалі, а кожная адзежына знае свой апошні раз.

Выпусцілі шасі, хутка колы ўжо точацца аб пасадачную паласу. Я азіраюся. У салоне больш нікога няма. Толькі я. Там, дзе сядзелі расіяне, засталася чорная скураная куртка ад расіяніна. Падобна, што Верына паліто здэтанавала. Выцягваю сваё паліто з camалётных антрэсоляў. Маё паліто чорнае з клеткамі ніжэй таліі, у яго вінаваты выгляд, але я ні за што не крыўдую на яго, нават калі яно і трохі спрычынілася да нечага. Не люблю крыўдаваць — усё мінае і ўсё заўжды выходзіць, як вядзе лёс. Нават калі нехта бывае вінаваты, з цягам часу гэта не важна. Прынамсі, я так сябе суцяшаю. Я запускаю рукі ў рукавы, зашпільваюся, накручваю на сябе шалік, перакідаю праз локаць Верына паліто, на плячо чапляю сваю дарожную торбу і іду па праходзе да выхаду. Няшмат засталося ад пасажыраў, у Мінск мала хто лётае. На крэслах ляжыць яшчэ пару куртак, тры палітоны і адно рудзенькае лісінае футра ад спявачкі Панлаўскай — бывай, Ядзя, бывай, маё маленства.

Сцюардэсаў няма — каля выхаду на падлозе ляжыць сіні касцюм і пілотка. Можа быць, гэта Цэцылія. Мне даводзіцца самой адчыняць дзверы. У гэтым самалёце яны замыкаюцца на цяжкую старую засаўку з глыбокімі драпінамі. Я ссоўваю яе дзвюма рукамі.

Выходжу з абалонкі і цісну да грудзей чужое паліто. Перада мною — цацачная хатка аэрапорта, паабапал — пластмасавыя елачкі, па-над усім кружацца буйныя белыя камякі штучнага снегу.

Набіраюся ротам мокрага паветра, у якім намяшана пахаў гумы, шкла, зямлі, снегу і пад ім ссохлай травы.

Вера, дзе цяпер твой хабаток?

## Так бачыць паэт



Стась Карпаў

## Палёт над Хрышчацікам і Нямігай

І я б не стаў і не пайшоў сцяною,
Я б сказаў сабе,
што не па мне адзежа:
Быць адным з васьмідзесяці
пад прасцінаю —
Гэта не тое, стары. А як жа і дзе жа
Гучыць гэты голас,
няісны, нязвонкі?
Гэта мой сорам, сорам,
гэта ўсё скруха, скруха —
Выгналі б з дому,
гналі б мяне вонкі,
Цягнулі б, цягнулі,
як бацька цягаў за вуха.
І бег бы я па Хрышчаціку ці Нямізе
Па Мінску, Кіеве, да сваіх, а потым
Страх бы абняў і сказаў бы: куды?
суніміся!
І спіну маю абліў бы
халодным потам.
І я б адчуў, як пахне гарэлай гумай,
І я б убачыў усё на сваім ваколлі,
Як хлопчык, што ў слухаўку
гучна кажа «бягу, мам»,
Ужо не бяжыць.
І не пабяжыць ніколі.
А я б паляцеў па Хрышчаціку
і Нямізе
Дамоў над Мінскам і Кіевам,
ну а сорам
Застаўся б там.
Застаўся бы недзе ўнізе,
І бег бы за мной,
і глядзеў бы ўслед з дакорам.
Бо я ж не стаў і не пайшоў сцяною,
Я ж сказаў сабе:
«Што за адзежа такая —
Адна прасціна на ўсіх,
хто пад прасцінаю?..»

Божа, вось рукі мае.
Хай сорам іх не адпускае.

**Стась Карпаў**

Нарадзіўся ў Мінску ў 1983. Скончыў філфак БДУ. Дызайнер, публіцыст, паэт.



Анатоль Івашчанка

## Сын

сунуць у фортку нос
нюхаць подых вясны
ведаць: за сценкай спіць
сын
добрае слова: сын
ў сына растуць валасы
ведаць: цяпер глядзіць
сны
сын гэта я сам
ў сына забіты нос
бачыць за сценкай сын
сон
нюхаць подых вясны
ведаць: за сценкай сон
ведаць: забіты нос
лёс

## ІМПРЭЗЫ

### Язэп Ціхінскі

**Імпрэза, прысвечаная памяці Язэпа Ціхінскага,** адбудзецца 10 сакавіка ў сядзібе ТБМ (Мінск, Румянцава, 13). Пачатак а 16-й. Уваход вольны.
Язэп Ціхінскі (1842—1922) — беларускі лексікограф, карэспандэнт «Нашай Нівы», стваральнік самага вялікага слоўніка новай беларускай мовы XIX — сяр. XX стст.

## КАНЦЭРТЫ

### «Касіяпея»

**7 сакавіка ў клубе «Піраты» (пр. Партызанскі, 6А)** гурт «Касіяпея» прэзентуе альбом пры падтрымцы сяброў з Пецярбурга — гурту СПБЧ. Пачатак а 19-й.

### «Без білета»

**8 сакавіка ў клубе Re:public (Прытыцкага, 62)** гурт «Без білета» прэзентуе новы альбом «Мора». У гэты дзень пройдуць два канцэрты: а 15-й і а 19-й.

### 30 Seconds to Mars

**10 сакавіка а 20-й у «Мінск-Арэне» (Пераможцаў пр., 111)** — канцэрт гурту 30 Seconds to Mars з Лос-Анджэлеса (ЗША).

## ВЫСТАВЫ

### Логасы. Тое, што робіць нашае жыццё камфортным

**Праект «Логасы. Тое, што робіць нашае жыццё камфортным» Канстанціна Селіханава** прадстаўлены ў галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А). Гэта ма- стацкая развага пра тэксты, важныя словы і паняцці. Праз арт-аб'екты, злучаныя ў інсталяцыю, сувязь паміж тэкстам — формай — зместам становіцца відавочнай. Мастак размаўляе з дапамогай метафар, і метафары становяцца візуалізаваным логасам.

### Працэс

**«Працэс» — гэта выстава 9 маладых фатографаў,** у аснове якой аўтарскія дакументальныя і арт-праекты. У прасторы **«Цэх» (Незалежнасці, 58/6)** прадстаўленыя вынікі адукацыйнага курса пад кіраўніцтвам прафесійных фотарэдактараў і фатографаў. На выставе можна пабачыць не толькі самыя праекты, але і тое, што натхняла фатографаў: кнігі, дзённікі, кадры з фільмаў, няўдалыя кадры.

### Да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі

**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі (Незалежнасці, 116)** праходзіць выстава, прымеркаваная да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Яна складаецца з фотаматэрыялаў, якія паказваюць, як увекавечана памяць паэта ў Беларусі, а таксама рэдкіх і найбольш каштоўных кніг бібліятэкі Пасольства Украіны.

### Кветкі для тых, хто любіць жыццё

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** экспануюцца творы сучаснага літоўскага мастака Ёнаса Даніляўскаса. Выстава «Кветкі для тых, хто любіць жыццё» — гэта 30 работ мастака, створаных за два апошнія дзесяцігоддзі.



**Мірэй Мацье**
**10 сакавіка ў Палацы Рэспублікі (Кастрычніцкая пл., 1)** выступае легендарная французская спявачка Мірэй Мацье. Пачатак а 19-й.

**Аліна Арлова**
**7 сакавіка а 19-й у Re:public (Прытыцкага, 62)** выступае Аліна Арлова (Літва).

## ТЭАТРЫ

### 6 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Лялек** — Шоўк
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 7 сакавіка

**Юнага гледача** — Тарас на Парнасе

### 9 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Адэль, А мне не сорамна!..
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Тры парсючкі

### 10 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Завядзёнка

### 11 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — Завядзёнка
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Оперы і балета** — Снягурка
**Юнага гледача** — Маленькі лорд Фаўнтлярой

### 12 сакавіка

**Оперы і балета** — Шчаўкунок
**Юнага гледача** — Сіні аўтамабіль

## КІНО

### Чужая кроў

Акадэмія вампіраў
Баявік, фэнтэзі, камедыя
**Рэжысёр:** Марк Уотарс
**У ролях:** Зоі Дойч, Люсі Фрай, Даніла Казлоўскі, Вольга Курыленка, Сара Хайланд, Гэбрыэл Бірн
ЗША, 104 хв.

Прынцэса знатнага роду «жывых» вампіраў, мароеў, Васіліса Драгамір і яе ахоўніца Роза Хэзэўэй збеглі з Акадэміі вампіраў, дзе жылі і навучаліся, але праз два гады былі злоўленыя сваімі родзічамі-мароямі і прымусова вернутыя назад. У Акадэміі прынцэса павінна заставацца ў бяспецы, бо за сценамі існуюць «мёртвыя» вампіры — стрыгоі, аматары маройскай крыві. Але тут ёй пагражаюць ейныя аднагодкі-зайздроснікі, і не толькі яны… Рэжысёр Марк Уотарс, набіўшы руку на фантастычных і камедыйных фільмах, здолеў паставіць неблагую экранізацыю першай кнігі аднайменнай фэнтэзі-эпапеі Райчэл Мід. На хвалі папулярнасці падлеткавага фэнтэзі пра вампіраў стужка выглядае не горш, а нават лепш за «Змярканне». Тут стае боек з «мёртвымі» вампірамі, інтрыг школьнага асяроддзя і здаровага гумару. Сюжэт ідзе жвава, часам і занадта хутка, спяшаючыся перадаць усе нюансы першакрыніцы. Шукаць тут глыбіні і прамаляванасці герояў не варта, але фільм пакідае добрае ўражанне цікава расказанай гісторыі ў жанры вампірскага фэнтэзі.

**Настасся Уласава**



**Фотафакт**



# Унікальная прыродная з’ява — ледзяныя кветкі

Дзівосная прыродная з'ява — «ледзяныя кветкі» — трапляецца ў прыродзе досыць рэдка. Для таго, каб яны ўтварыліся, неабходна супадзенне некалькіх фактараў надвор'я.

Існуе два асноўныя спосабы іх з'яўлення. Першы — вада з празмерна вільготнага паветра кандэнсуецца ў выглядзе крышталяў на астуджанай паверхні лёду. Напрыклад, гэтак жа ўзнікае іней. Іншы спосаб — з салёнай вады, якая падымаецца па порах лёду, утвараюцца крышталі солі.

Дарэчы, здаралася, калі такія ўтварэнні дасягалі 15 см у дыяметры. Навукоўцы лічаць, што іх велічыня залежыць ад хуткасці змены тэмпературы.

На сайце nn.by. былі змешчаныя фоткі з фінскімі ледзянымі кветкамі. Чытачы ж «НН» даслалі такія самыя і беларускія, здымкі зробленыя сёлета.

Лявон Максюта




# «Мёртвым не баліць» Быкава выходзіць без цэнзурных правак

Нядаўна малодшы сын Быкава знайшоў у гарадзенскай кватэры пісьменніка чарнавік «Мёртвым не баліць», які лічыўся страчаным.

За яго аналіз узяўся Сяргей Шапран, даследчык творчасці Быкава. Высветлілася, што цэнзары зрабілі ў аповесці каля 200 купюр.

Як сцвярджае Шапран, гэтыя скарачэнні маглі складаць адно слова (Сталін, Берыя, СМЕРШ) або займаць некалькі старонак.

Праўкі і скарачэнні ў «Мёртвым не баліць» рабіліся не адным чалавекам (пра што сведчаць розныя почыркі дый розны характар правак), і, мусіць, для гэтага спатрэбілася не адна чытка.

Выхад непадцэнзурнага выдання Васіля Быкава, якое будзе мець каля 600 старонак у цвёрдай вокладцы, запланаваны на вясну. Прафінансаваць кнігу згадзіўся бізнэсоўца і мецэнат Павел Бераговіч.

Мікіта Капкоў

# Прыпынены продаж антывірусных праграм




Такі загад выдаў Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце. Ад 1 студзеня ў Беларусі падлягаюць дадатковай сертыфікацыі праграмныя сродкі абароны ад уздзеяння шкодасных праграм і антывірусныя праграмныя сродкі. У сувязі з гэтым афіцыйныя продажы несертыфікаваных антывірусных прадуктаў прыпынены.

Апрача таго, згодна з загадам, разам са сродкамі праслухоўвання, абароны ад праслухоўвання, сродкамі крыптаграфічнай абароны інфармацыі абавязковай сертыфікацыі падлягаюць таксама маршрутызатары і сістэмы кіравання сайтамі.

Прыпыненне рэалізацыі пацвярджаюць некаторыя беларускія афіцыйныя пастаўшчыкі антывірусных прадуктаў «Лабараторыі Касперскага», Symantec і іншых.

Антывірусныя праграмы здольныя выяўляць на камп'ютарах траяны-шпіёны, а крыптаграфічныя — захоўваць інфармацыю ў шыфраваным выглядзе.

ЛМ



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Голас крыві, альбо Істэрычная справядлівасць

Моцная ўсё ж штука — пульт дыстанцыйнага кіравання. Адным націсканнем кнопкі магчыма пачаць вайну ці падоўжыць Алімпіяду...

«Ды пайшлі яны ўсе на...! — раздражнёна кінуў прыяцель і ўзгадаў прыказку пра кусліва насякомае, што лёгка пераскоквае з аднаго цёплага месца на іншае. — Зараз лягу і буду глядзець Алімпіяду...»

Эпізод тычыцца падзей шасцігадовай даўніны — расійска-грузінскай вайны. Я падумаў тады: як далёка мы ад вайны! Дакладней, далёкія...

Сёння вайна на расійска-ўкраінскім парозе. На адлегласці кроку. Але мы па-ранейшаму далёкія ад яе. Па-ранейшаму паміж намі і тым, што адбываецца насамрэч, Вялікая Хлусня. Якія там «падвоеныя стандарты»! Гэта толькі падаецца, што мы кіруем кнопкай. Гэта яна кіруе намі, робіць з нас не толькі ўдзельнікаў інфармацыйных войнаў, але спрэс іх ахвяр. І вось ужо спрачаемся — да хрыпаты, да кідання слухавак, да разрыву сяброўскіх адносін! «Бачыў, як «Беркут» стаіць на каленях? Такая знявага!» — «Дык гэта ж ён сам прасіў у людзей прабачэння» — «А як губернатара прыкавалі кайданкамі да слупа... Табе падабаецца?» — «Не, не падабаецца. А хто сказаў, што рэвалюцыя павінна падабацца?» — «Якая рэвалюцыя? Дзяржаўны пераварот...» І гэтак далей і далей...

Напрыканцы XIX стагоддзя, падчас англа-бурскай вайны, свет быў куды бліжэйшы да праўды, чым сёння, ва ўладаранні Кнопкі. І вось ужо страляніна з-за вугла завецца «абаронай роднага дому», а смяротнае скваўтанне «Града» — «абаронай тэрытарыяльнай цэласнасці», знішчэнне гарадоў і вёсак — «навядзеннем канстытуцыйнага парадку», а вайна на чужой тэрыторыі — «прымушэннем да міру»... Сёння да расійскай прапагандысцкай тэрміналогіі часоў вайны з Чачнёй і Грузіяй дадаліся «неафашысты» ў Кіеве і «руская кроў» у Крыме... «Колькі рускай крыві праліта за вызваленне Крыма!» — «раве та стогне» Валянціна Мацвіенка. Імаверна перад тым, як на «мэрсе», ці там на чым, адправіцца на чарговы масаж... Трэцяя, дарэчы, асоба ў расійскай дзяржаве.

Вы штосьці-небудзь чулі ад «фашыстаў» з Майдану пра «ўкраінскую кроў»? Пра нацыянальную рэвалюцыю — так. Пра «ўкраінскую кроў» — не... Але віск на ўвесь свет: фашысты... антысеміты... рускія перамаглі нацызм, астатнія служылі ў тылавых войсках... дзяржавы «Украіны» няма... украінскай мовы няма...

Гэта Жырыноўскі. Клоўн, скажа нехта. Але «клаўнаду» транслюе дзяржаўнае расійскае тэлебачанне, ці не з гадзіну дазваляе ліцца брудзе і атрутце, за якія ў любой цывілізаванай краіне — краты. За распальванне міжнацыянальнай варожасці і заклікі да вайны...

І гэтак бліжэй і бліжэй...

І вось ужо гіне на гэтай вайне «нябесная сотня» — каб назаўжды вырваць краіну з імперскіх ці то абдымкаў, ці то кіпцюроў...

Але нам па-ранейшаму падаецца, што вайна немагчымая, што Пуціну хопіць розуму, каб не ставіць свет на край непрадказальнай па маштабах і наступствах катастрофы.

Паставіў. Хаця зболышага маўчыць.

Навошта гаварыць, калі «фігуру змаўчання» надзейна агучваюць мацвіенкі, жырыноўскія, думцы, палітолагі невядома з якіх

## Вы што-небудзь чулі ад «фашыстаў» з Майдану пра «ўкраінскую кроў»?



«няўрадавых» цэнтраў, так званыя «рускамоўныя» ды іншыя «верныя ленінцы», ды й простыя падманутыя людзі, якім нагадалі пра «голас крыві»...

Навошта гаварыць, калі «фігуру змаўчання» надзейна агучваюць прапагандысты з дзяржаўных СМІ «дэмакратычнай» Расіі — спрэс наўмыснае маніпуляванне фактамі ды й наўпрост фальсіфікацыі... Адзенне скінута — кароль голы.

Навошта гаварыць, калі «фігуру змаўчання» надзейна агучвае нехта з мясцовых т.зв. лідараў з паводзінамі падсаднай качкі. Дакладней, таго разняшчаснага паланчыка, які па падбурхтоўванні дарослых бандытаў у патрэбны момант пракрычыць: «Нашых б'юць!»

«...калі грамадзянін Ізраіля недзе трапляе ў бяду, альбо грамадзянін ЗША, там падключаецца ўся дзяржаўная машына ў абарону гэтага чалавека». Гэта зноў Мацвіенка. Засталося толькі зрабіць «нашых» грамадзянамі Расіі. Што не цяжка, нават новапрызначаны з дапамогай «калашнікавых» крымскі прэм'ер якраз яе грамадзянін.

...Учорашнія падзеі на Каўказе і сённяшнія вакол Крыма, ды ўвогуле Украіны, нават больш яскрава (для нас, ва ўсякім выпадку), чым колішнія падзеі ў Югаславіі, высвецілі адну з самых небяспечных традыцый у суіснаванні народаў і дзяржаў — традыцыю легалізаванага забойства, якім з'яўляецца вайна. Традыцыю, ад якой, здавалася, назаўсёды адвярнулі крывавыя катастрофы XX стагоддзя.

Не адвярнулі. Больш за тое, яна працягваецца з новай жахлівай сілай і ў новым «цывілізаваным» выглядзе, намагаецца састроіць з сябе ўвасабленне высокай маралі. І самая цынічная частка гэтага падману — заклік да «гістарычнай справядлівасці», што набывае цяжкія формы шавіністычнага псіхозу і істэрыі.

Кожны раз, калі палітыкі енчаць пра «гістарычную справядлівасць», чакайце загаду на распачынанне новай вайны. І не шукайце справядлівасці — яе ў гісторыі наўпрост няма. Ёсць гістарычны досвед, каторы немагчыма засвоіць без гістарычнай праўды.

Гэты досвед і гэтая праўда наўпрост лямантуюць супраць адраджэння ў Расіі імперскага духу.

Нагадаю, дарэчы: матрос Кошка, самы знакаміты герой колішняй Крымскай вайны, быў украінцам.

Па крыві.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Лідара маладафронтаўцаў Зьмітра Дашкевіча асудзілі на 12 сутак арышту за акцыю пратэсту супраць вайны ва Украіне. 2 сакавіка да расійскага пасольства прыйшло некалькі дзясяткаў чалавек. Сяргей Фінкевіч атрымаў 10 сутак, Яўген Ціханаў — 12. На фота: Наста Палажанка размаўляе са Змітром Дашкевічам праз шкло аўтазака.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**8 лютага—2 сакавіка на канькабежным стадыёне «Мінск-Арэны» прайшоў Адкрыты кубак Беларусі па кёрлінгу (слізгачы). З мэтай папулярызацыі гэтага экзатычнага алімпійскага віду спорту да камандаў прафесіяналаў маглі далучыцца ўсе ахвотныя.**



**Амерыканскі акцёр і музыкант Джарэд Лета, які атрымаў прэмію «Оскар» за найлепшую мужчынскую ролю другога плана, у сваёй прамове згадаў пратэстоўцаў ва Украіне і Венесуэле. «Мы сёння ўсе з вамі», — зазначыў акцёр. З трансляцыі на АНТ гэтыя словы выразалі.**



**Удзельнік зімовага карнавала ў Вальдэсота (Іспанія) захапіў маленькага хлопчыка ў палон падчас ганаровага парада.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Пачуўшы па тэлебачанні, як добра жывецца грамадзянам Расійскай Федэрацыі, жыхары Смаленскай, Кастрамской і Калужскай абласцей таксама заявілі пра жаданне ўвайсці ў склад Расіі следам за Крымам.

* * *

— Чула, Праскоўя, Пуцін Украіну хоча захапіць!

— Ай, годзе табе лухту гаварыць!

— Ай, далібог, Януковіча ўжо ў палон ўзялі

* * *

Сіноптыкі не памыляюцца. Яны проста блытаюць месца і дату.

* * *

У часе прэс-канферэнцыі ў Растове-на-Доне Віктар Януковіч агаварыўся і апісаўся.

***

Адзін расійскі хлопчык кінуў у амапаўцаў лімон і атрымаў 3 гады. А ўкраінец кінуў «кактэйль Молатава» — і зрынуў дыктатара.

* * *

– Павесьце, калі ласка, куртку.

– Не павешу: у вас няма пяцелькі.

– Павесьце за капюшон!

– Не павешу: у вас няма пяцелькі!

– Дяк хутка ж спектакль пачнецца.

– Не пачнецца: вунь сядзяць акцёры, і ўсе прышываюць пяцельку.

* * *

Кепская тая прыбіральшчыца, якая не марыць стаць кёрлінгісткай.

* * *

– О, якія людзі! Сто гадоў з табой не бачыліся!

– Так, і першыя 50 гадоў я нават святкаваў гэта.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Не можна маліцца.** У дзень шаўчэнкаўскага юбілею ў Кіеве забаронена было адпраўляць паніхіды па Шаўчэнку. З гэтай прычыны адбылася ўкраінская дэманстрацыя на вуліцах Кіева. Процiў украінскай дэманстрацыі таварыства «Двуглавы арол» устроіла патрыятычную дэманстрацыю перад памятнікам Хмяльніцкага.

**«НН». №10. 1914.**

***Жанчыны выходзяць з-пад кантролю.*** Сацыяльная і палітычная эмансіпацыя беларусак адбывалася ў савецкія часы. За апошнія ж 20 гадоў змяніліся перадусім сэксуальныя паводзіны жанчынаў. Напрыклад, іншы пол выразней усвядоміў свае права на асалоду. Адпаведна, усё больш жанчын успрымаюць сэкс не як сямейны абавязак, а як права. Праз гэта яны пачынаюць па-іншаму ставіцца да свайго цела, да спажывання і г.д. Гэта мяняе жанчын, іх стыль жыцця, іх мастацтва.

**«НН». №9. 2004.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»



АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by



**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 5.03.2014.
Замова №1006.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 14009